


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

9 ЛЮТАГА 2001г. № 6/4090 КОШТ 118 РУБ.







# Талент магутны, зямны...

Івану Паўлавічу Мележу — 80...

Пісьменніку падобнага таленту, людзі, такой вялікай жыццядайнасці і аптымізму ніколі не паміраюць: з іх фізічным адыходам працягваецца жыццё духоўнае, таму і гаворым мы пра Івана Мележа, асабліва ў гэтыя дні, як пра жывога, як пра нашага сучасніка, з якім разам задумваемся над лёсам Бацькаўшчыны, акідваем позіркам шлях, пройдзены родным народам. Задумваемся, звяртаючыся і да "Палескай хронікі", як да КНІГІ КНІГАЎ, што сказала (і расказала!) пра беларусаў так шмат, як ні ўдавалася гэта зрабіць папярэднікам Івана Паўлавіча ды і наўрад ці па сіле наступнікам. І не толькі таму, што кожны талент (асабліва агромністы, такі, які быў у Івана Мележа) — сам па сабе непаўторны, "дубліката" яму няма і быць не можа, а яшчэ і таму, што Іванам Мележам узняты такі агромністы жыццёвы пласт, да якога можа падступіцца далёка не кожны. Канечне, і ў Івана Паўлавіча былі выдатныя папярэднікі, а найперш вялікі чалавеказнаўца і чалавекалюб Кузьма Чорны. Несумненна, у яго ёсць выдатныя прадаўжальнікі — і тыя, хто, на жаль, ужо таксама адышоў з жыцця, і тыя, хто, на шчасце, працягвае працаваць... Але Іван Мележ у літаратуры — адзін. І гэта асабліва ўсведамляеш у дзень нараджэння Івана Паўлавіча, у дзень яго 80-годдзя.

*Фота Ул. КРУКА*

***Матэрыялы, прысвечаныя Івану Паўлавічу Мележу, чытайце на стар. 6—7, 14—15.***

# "Нацыянальную культуру мы разглядаем як важнейшы стратэгічны рэсурс дзяржавы"

## ВЫСТУПЛЕННЕ А. ЛУКАШЭНКІ НА НАРАДЗЕ "АБ МЕРАХ ПА ВЫРАШЭННІ ПРАБЛЕМ РАЗВІЦЦЯ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА" 1 ЛЮТАГА 2001 ГОДА

Паважаныя ўдзельнікі нарады! Дарагія госці!

У пачатку свайго выступлення я хацеў бы акрэсліць ролю і месца, хутчэй месца, нашай нарады ў сістэме мерапрыемстваў, якія праходзілі ў апошнія 4-5 гадоў. Гэта нарада не выпадковая. Мы даўно не праводзілі такіх шырокіх сустрэч з творчай інтэлігенцыяй, у такім фармаце мы ўвогуле не сустракаліся. І было б гэта вельмі несправядліва, калі б мы не правялі такую сустрэчу. Таму што мы з усімі катэгорыямі працуючага насельніцтва нарады, з'езды, форумы не адзін раз праводзілі ўжо. З настаўнікамі, урачамі, работнікамі сельскай гаспадаркі, прамыслоўцамі. Мы, калі хочаце, выкрышталізоўвалі тыя пазіцыі, якія дзяржаве і дзяржаўнай уладзе, усяму грамадству прыходзілася і прыходзіцца сёння рэалізоўваць. Гэта значыць, мы не ішлі на нейкія бяздумныя, спантанныя рэформы, пакуль не праводзілі "мазгавую атаку" на тыя або іншыя праблемы. І мы гэта рабілі калектыўна.

Калі ацэньваць цяперашнюю нараду з пункту гледжання своечасовасці яе правядзення, варта прызнацца, што яе можна было б правесці і раней. Але калі б мы яе правялі раней, яна б не была такой выніковай. Я маю на ўвазе тыя рашэнні, якія будуць прыняты па яе выніках. Перш за ўсё гэта звязана з фінансаваннем сферы культуры і мастацтва.

Я сапраўды шчыра рады нашай сустрэчы. Гэтым, відаць, тлумачыцца і маё хваляванне, паколькі я сустракаюся з элітай нашага грамадства.

Няхай не крыўдзяцца на мяне сёння работнікі іншых сфер за тое, што пачатак года, новага стагоддзя праходзіць у нас пад знакам культуры. Гэта сімвалічна. Нашай сустрэчы папярэднічалі такія яркія падзеі, як уручэнне спецыяльных прэмій Прэзідэнта вядомым дзеячам культуры, прэмій "За духоўнае адраджэнне", Дні беларускай культуры ў Расіі. Да гэтага часу, і мне гэта вельмі прыемна адзначыць, я атрымліваю надзвычайна цёплыя водгукі ад удзячных гледачоў і паклоннікаў таленту беларускіх майстроў. Сюды ж трэба аднесці і нядаўнюю сустрэчу з нашым вялікім пісьменнікам Іванам Шамякіным, якая арганічна ўпісваецца ў шэраг мерапрыемстваў, што папярэднічаюць сённяшняму форуму.

Правядзенне гэтай нарады чарговы раз сведчыць аб вялікім значэнні, якое кіраўніцтва краіны надае духоўна-маральнаму развіццю нашага грамадства, дзейнасці творчай інтэлігенцыі.

На гэта важнае дзяржаўнае мерапрыемства запрошаны вядомыя дзеячы навукі, культуры і мастацтва, рэктары ВНУ, кіраўнікі і работнікі культурнаасветных устаноў, творчых саюзаў, сродкаў масавай інфармацыі, прадстаўнікі беларускай дыяспары з суседніх краін, а таксама адказныя работнікі аблвыканкамаў, дзяржаўных камітэтаў, міністэрстваў. Адміністрацыі Прэзідэнта, члены ўрада.

Нацыянальную культуру мы разглядаем як важнейшы стратэгічны рэсурс дзяржавы. Мэта нашай сустрэчы — намеціць канкрэтную праграму далейшых дзеянняў па ўдасканаленні работы ў гэтай сферы.

Культура аказвае асаблівы ўплыў на станаўленне дзяржаўнасці. Яе высокі ўзровень — залог фарміравання спрыяльнага жыццёвага асяроддзя нацыі. Без апоры на высокую культуру мы не зможам выхаваць грамадзяніна-патрыёта, руплівага працаўніка, клапатлівага сем'яніна, асобу творчую і духоўна багатую.

Даючы інтэрв'ю на расійскім тэлеканале "Культура", я сказаў, што без высокай культуры не можа быць эфектыўнай эканомікі. Цывілізаваная эканоміка нам патрэбна, а такую стварыць толькі высокакультурны, адукаваны чалавек. Такім чынам, культура становіцца асновай усяго грамадства. Бескультурнае, амаральнае грамадства не можа стварыць ні планавай, ні рыначнай, ні змешанай эканомікі, як хочаце яе называйце. Я гэта кажу не для таго, каб вас пахваліць. Я сапраўды ў гэтым перакананы. Я сапраўды так думаю.

Культурны патэнцыял — важнейшы паказчык міжнароднага аўтарытэту нашай дзяржавы.

У якой меры дасягненні нацыянальнай культуры сёння адпавядаюць духоўным запатрабаванням народа? Наколькі існуючая сістэма кіравання гэтай сферай адпавядае патрэбнасцям творчай дзейнасці чалавека? Што трэба зрабіць у бліжэйшай перспектыве для далейшага развіцця культуры? Вось пытанні для сённяшняга сумеснага абмеркавання.



**Беларуская культура на рубяжы стагоддзяў**

Паспрабуем даць некаторыя сціслыя ацэнкі. Для сучаснага грамадства ў аднолькавай ступені важныя як матэрыяльная складаная частка яго культуры, так і духоўная. Гэта непарыўнае адзінства.

Найбольш поўна і глыбока мы даведваемся аб думках, спадзяваннях і клопатах народа ад мастакоў, пісьменнікаў, мысліцеляў. Менавіта яны намацваюць асноўны нерв эпохі і пульс часу.

Выдатны філосаф І.А.Ільін сказаў: "Усё вялікае ідзе знутры... калі ўнутры смутна, нячыста, злосна, хціва, агідна, то не дапаможа ніякая знешняя форма, ніякая забарона, ніякая пагроза, ніякае «выбарчае права». Сапраўднае будаўніцтва ёсць творчасць, а не перайманне".

Я вельмі ўважліва назіраю за тым, што адбываецца ў асяроддзі творчай інтэлігенцыі. Добра знаёмы з асноўнымі праблемамі і напрамкамі работы. Але маё крэда як кіраўніка дзяржавы — не ўмешвацца па дробязях, не аказваць націску на людзей творчых, не навязваць ім нейкіх думак. Словам, не перашкаджаць працаваць.

Аднак гэта нічога агульнага не мае з раўнадушшам і неўвагай. Задача ўлады — глыбокае і аб'ектыўнае веданне тэндэнцый, стварэнне аптымальных умоў для развіцця ўсіх, падкрэсліваю, усіх відаў мастацтва і культуры з улікам існуючых рэальных магчымасцяў у дзяржавы і грамадства. Менавіта агульнадзяржаўны, а не вузкаведамасны падыход дае магчымасць маштабна ацэньваць з'явы, бачыць вастрыню праблем, вызначаць найбольш важныя напрамкі дзейнасці.

Сёння можна ўпэўнена сказаць — мы ўзнялі культуру з развалу, выцягнулі яе з палітычных разборак і паставілі ў цэнтр дзяржаўнай сацыяльнай палітыкі.

Скажу шчыра. Калі ў 1994 годзе народ выбраў мяне прэзідэнтам, я быў уражаны не толькі станам эканомікі, але і цяжкім станам нацыянальнай культуры. На грані закрыцця былі многія тэатры і музеі. Ледзь тлела жыццё ў праслаўленых прафесійных мастацкіх калектывах. Адзін за адным распадаліся самадзейныя ансамблі, народныя тэатры, аркестры. Гінула сістэма дзяржаўнага кінапракату, асабліва ў вёсцы. Закрываліся мясцовыя радыёвузлы. Знішчалася праваднoе радыёвяшчанне. Згортвалася мастацкая самадзейнасць у школах і дамах піянераў.

Ужо рыхтаваліся распараджэнні і пастановы аб закрыцці дзіцячых музычных і мастацкіх школ, асабліва ў вёсцы. Скарачалася вытворчасць музычных інструментаў і абсталявання для дамоў культуры.

Але страшная была не толькі гэта разруха на некалі багатай культурнай прасторы нашай краіны. Не гэта было самае страшнае. Яшчэ больш страшнай была, па словах аднаго з герояў Міхаіла Булгакава, разруха ў нашых галовах.

Скарыстаўшы баязлівасць шматлікіх партыйных прыстасаванцаў, у пачатку дзевяностых гадоў рэальную ўладу ў краіне пачала прыбіраць да рук агрэсіўная кучка нацыянал-радыкалаў. Культурную прастору яны ператварылі ў арэну палітычнай барацьбы. Як ні горка аб гэтым успамінаць, ім удалося тады нацкаваць адна на адну розныя групы нацыянальнай інтэлігенцыі. Яны сталі вытоптваць гістарычную памяць народа. Не шануючы ні вялікага Янку Купалу, ні еўрапейскага генія Якуба Коласа, ні творчасць Аркадзя Куляшова, ні многіх іншых нашых вялікіх пісьменнікаў. Язык не паварочваецца паўтараць тую слоўную непрыстойнасць, якая фантанамі забіла, на жаль, са старонак літаратурных выданняў.

За якіх-небудзь два гады нанава перапісалі падручнікі. З гэтых "шэдэўраў" вынікала, што Другую сусветную вайну развязаў савецкі народ, а не гітлераўцы. Што беларускія партызаны былі "бандытамі", а паліцаі і беларускія эсэсаўцы (цытую)— "змагарамі за адраджэнне эўрапейскай культуры і росквіт свабоды ў хаўрусе з Вялікай Нямеччынай" Гэта рабілася нездарма. У жыцці было ўсё, шмат неадназначнага. Але іх задума заключалася ў тым, каб адабраць у нас самае святое і вялікае з адышоўшага стагоддзя — нашу Перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне. Гэтай перамогай, паклаўшы на яе алтар 50 мільёнаў забітых і пакалечаных, мы захавалі свет, у тым ліку для тых, хто сёння нам гаворыць аб багацці і дэмакратыі. І гэту перамогу у нас хацелі забраць для таго, каб абяліць сябе. Мы гэтага дапусціць не мелі і не маем права. І ў гэтым задача, у тым ліку, і творчай інтэлігенцыі.

Вы памятаеце, як з выдавецкіх планаў выкідваліся творы любімых народам пісьменнікаў, іх месца займалі творы адстаўных карнікаў і адкрытых прыслужнікаў крывавага гітлераўскага акупацыйнага рэжыму.

З рэпертуару тэатраў і самадзейных калектываў была выключана ўся савецкая класіка, ды ў многім і руская. Пад крыкі "аб заняпадзе беларускай мовы" яны пачалі разбураць існуючую нарматыўную адзіную літаратурную беларускую мову. Пачалі расцягваць яе па рэгіёнах, па мястэчковых дыялектах, замечваць паланізмамі і няграматнымі перакладамі-калькамі з іншых неславянскіх моў. Замест жывой народнай мовы, якая энергічна развівалася амаль цэлае стагоддзе ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, пачалі вяртаць забытыя гістарычныя варыянты.

Мудра папярэджваў супраць такой практыкі выдатны беларускі пісьменнік Кузьма Чорны: "Мова — жывая істота. Яна жыве з народам, а не існуе". Яна жыве, а не існуе. Але да гэтага папярэджання новыя прыхільнікі рэвалюцыйных рэформаў не прыслухаліся. На жаль, ламаць не будаваць, розуму тут шмат не трэба было.

На шчасце, у грамадстве перамаглі здаровыя сілы, якія змаглі процістаяць разбуральным працэсам. Моцная ўлада з дакладнай праграмай нацыянальнага адраджэння зрабіла рашучыя крокі па кансалідацыі грамадства і абароне сапраўдных інтарэсаў народа.

Перш за ўсё, з вашай дапамогай, дарагія сябры, мы пры падтрымцы ўсяго грамадства беларускую культуру захавалі і ўзбагацілі. Мы зберaглі беларускую душу.

Мы захавалі і прымножылі сістэму эстэтычнага выхавання дзяцей і юнацтва, сістэму вышэйшай і сярэдняй мастацкай адукацыі.

Мы зберaглі нацыянальны кінематограф, дзяржаўнае кнігавыданне. У бліжэйшы час мы маем намер зрабіць яшчэ больш.

Сапраўды народнымі засталіся нашы масавыя бібліятэкі. Мы ганарымся тым, што іх асноўны кніжны фонд складае сусветная, савецкая і беларуская класіка.

Іншым становіцца рэпертуар нашых тэатраў. Нарэшце пакідаюць нацыянальную сцэну пошласць, амаральнасць і безгустоўнасць.

Мы зберaглі ад разбурэння адзіную літаратурную беларускую мову, яе багацце і жыватворнае напаўненне са штодзённага жыцця народа.

Работа акадэмічных інстытутаў, філалагічных факультэтаў шматлікіх ВНУ, выданне энцыклапедычных слоўнікаў і даведнікаў, кнігі, газеты і часопісы, радыё і тэлебачанне — усё гэта стымулюе пашырэнне сферы і развіццё беларускай мовы. Гэтыя і іншыя напрамкі фінансуе і падтрымлівае дзяржава і кіраўніцтва краіны.

Беларускую мову мы не дазволілі ператвараць у сродак палітычных разборак. Пытанне аб наданні статуса дзяржаўнай беларускай і рускай мовам вырашыў народ самым дэмакратычным чынам — на ўсенародным рэферэндуме. І гэта з'явілася найлепшым рашэннем, таму што зняло палітычную вастрыню ў грамадстве.

Стагоддзямі так складвалася, што на нашай зямлі мірна і плённа ўжываліся і ўжываюцца дзве блізкія мовы. І ні адна з іх ад гэтага не пацярпела.

Мы не дазволілі рассекчы па жывому крывятворную сістэму беларуска-расійскага духоўнага брацтва. Я заўсёды гаварыў, што руская мова для нас не чужая. На працягу доўгіх гадоў мы разам з брацкім рускім і іншымі народамі фарміравалі гэту мову. Мы ўклалі ў яе часцінку сваёй душы. І мы не маем права і не павінны адмовіцца ад гэтай мовы дзеля будучыні сваіх дзяцей і ўнукаў. Інакш пазбавім іх эфектыўнага інструмента зносінаў і здабывання ведаў.

Хтосьці, магчыма, будзе пярэчыць і нават крытыкаваць мяне за тое, што сёння я выступаю на рускай мове. Але гэта маё, як і ваша, права выступаць на гэтай нарадзе на любой з двух дзяржаўных моў — на рускай або на беларускай. Калі ласка, гаварыце на той мове, на якой вам больш зручна і на якой вас разумеюць, калі вы хочаце, каб вас разумелі.

**Асноўныя тэндэнцыі і праблемы**

Развіццё беларускай культуры і мастацтва апошніх гадоў у цэлым адзначана шэрагам пазітыўных тэндэнцый.

Першае. Удасканальваецца нарматыўна-прававая база. Прасочваецца сістэмнасць і паслядоўнасць у гэтым пытанні. Прыняты шэраг важнейшых заканадаўчых актаў. Створаны Фонд прэзідэнта краіны па падтрымцы культуры і мастацтва. Распрацавана Дзяржаўная праграма "Функцыянаванне і развіццё культуры Рэспублікі Беларусь да 2005 года", у якой вызначаны прыярытэты галіны. Першае, я падкрэсліваю, — гэта нарматыўна-прававая база.

Другое. Далейшае развіццё атрымала прафесійнае мастацтва. Беражліва падтрымліваецца і захоўваецца гісторыка-культурная спадчына народа. Умацоўваецца матэрыяльная база. Захавана сетка ўстаноў культуры і навуковы патэнцыял навучальных устаноў. Павялічаны кантынгент дзіцячых школ мастацтваў усіх тыпаў. Многае робіцца па ўдасканаленні і падрыхтоўцы кадраў. Дзяржава актыўна падтрымлівае таленавітую моладзь.

Для даведкі сказаць, што цяпер у Беларусі працуе больш за 13 тысяч устаноў культуры і мастацтва. У сістэму Міністэрства культуры ўваходзіць 550 навучальных устаноў, у тым ліку дзіцячыя школы мастацтваў, сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Больш за пяць тысяч публічных бібліятэк, у фондах якіх налічваецца больш як 70 мільёнаў экзэмпляраў кніг, абслугоўваюць больш за 4 мільёны чытачоў. У рэспубліцы дзейнічаюць 135 музеяў, 40 тэатральна-відовішчных арганізацый, 2 цыркі, 3,5 тысячы кінатэатраў, кінаўстановак і відэасалонаў.

У галіне культуры і мастацтва працуюць больш за 70 тысяч чалавек, у тым ліку ў сістэме Міністэрства культуры — 50 тысяч. Гэта вялікая армія творчых людзей, штодзённая праца якіх вызначае сучасны стан беларускай культуры і мастацтва.

Нягледзячы на фінансавыя складанасці, у краіне за апошнія гады не страчаны ні адзін прафесійны калектыў. Ствараюцца новыя творчыя калектывы. Актывізавалася канцэртнае абслугоўванне насельніцтва. Гэта я асабліва падкрэсліваю. Я рады, што такія вядомыя калектывы, як аркестр Фінберга, выступаюць у працоўных калектывах і даюць канцэрты не толькі на вялікіх сцэнічных пляцоўках. Гэту практыку неабходна працягваць, і яна будзе мець падтрымку.

Рэпертуар канцэртных калектываў і выканаўцаў штогод папаўняюць сотні твораў беларускіх аўтараў. Павялічваецца колькасць розных фестываляў і аглядаў. Такія з іх, як "Славянскі базар у Віцебску", "Залаты шлягер", "Беларуская музычная восень", "Мінская вясна" і іншыя сталі яркімі агульнанароднымі святамі, падзеямі вялікага міжнароднага гучання. Часта гавораць, што мы праводзім шмат такіх мерапрыемстваў. Але трэба зыходзіць з таго, што яны

*(Працяг на стар. 5, 13)*

## Памяці Генадзя Каханоўскага

Раённая цэнтральная бібліятэка горада Маладзечна ў сваёй працы шмат увагі надае прапагандзе гісторыі і культуры роднага краю, творцам, якія жылі і працавалі на Маладзечаншчыне. Адным з такіх творцаў з'яўляецца Генадзь Каханоўскі, якому 8 студзеня споўнілася б 65 гадоў. Супрацоўнікі раённай цэнтральнай бібліятэкі з гэтай нагоды 15 студзеня правялі вечарыну памяці свайго земляка. У ёй удзельнічалі сябры клуба "Жывіца", а таксама сваякі пісьменніка і тыя, хто яго добра ведаў.

28 студзеня супрацоўнікі раённай цэнтральнай бібліятэкі выехалі ў Радашковічы, дзе ў мясцовай бібліятэцы правялі сустрэчу з чытачамі, якімі імя Генадзя Каханоўскага памятаецца і шануецца. Перад прысутнымі выступілі мясцовыя паэты і сябры клуба "Жывіца". Вёў вечарыну Міхась Казлоўскі, які, як рэдактар, першы нумар часопіса "Віленскі край" прысвяціў Генадзю Каханоўскаму.

Н. К.

## "Зьніч" у Баранавічах

Вядомы паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч", мастацкім кіраўніком якога з'яўляецца Галіна Дзягілева, практыкуе апошнім часам так званыя выязныя спектаклі. Нядаўна спектакль паводле вершаў і паэм Анатоля Вярцінскага "Любіць!" ладзіўся ў Баранавіцкай сярэдняй школе N 19. Ініцыятарам сустрэчы была намеснік дырэктара, выкладчыца мовы і літаратуры Вольга Нікушка. Актыўны ўдзел прыняў і дырэктар Аляксандр Акулаў. Выканаўцу твораў паэзіі і іх аўтара цёпла сустракалі настаўнікі і навучэнцы школы, усе запрошаныя. Нават з песняй-прывітаннем выступіў хор настаўніц — выкладчыкаў СШ.

Марына СЛАВА

## "Крыніца", N 61

Першы нумар часопіса за 2001 год адкрываецца рубрыкай "Ты". На гэты раз матэрыялы прысвечаны творчасці Алеся Жука. З пісьменнікам гутарыць Юры Станкевіч. Пад загалоўкам "Лакнея" змешчаны фрагмент з кнігі прозы А. Жука "Па дарозе дадому". Пра ягоную творчасць пішуць Галіна Тычка, Ірына Шаўлякова, Дзмітрый Бугаёў, Васіль Гігевіч, Андрэй Федарэнка ды Ігар Жук.

У нумары апублікаванні апавяданні Леаніда Маракова ("Іваноў") і Максіма Клімковіча ("M i W"), паэтычныя падборкі Ларысы Раманавай, Віктара Жыбуля ды Андрэя Хадановіча, а таксама паасобныя вершы Надзеі Салодкай, Алега Кацапава, Надзеі Сінькевіч і Вікторыі Салаўёвай.

У рубрыцы "Ён" Лявон Баршчэўскі падае жыццяпіс нобелеўскага лаўрэата Генрыха Бёля. Змешчаны тры творы класіка: "Сяброўка з доўгімі валасамі", "Нешта адбудзецца. Гісторыя, насычаная дзеяннем" (пераклаў Л. Баршчэўскі) ды "Мой сумны твар" (пераклала Вольга Гурло).

Друкуюцца таксама заканчэнне рамана Эжэна Іянэскі "Адзінотнік" (пераклаў Алесь Асташонак).

На пытанні крынічанскай анкеты адказваюць Максім Клімковіч, Мар'ян Дукса, Леанід Галубовіч, Васіль Зуёнак, Леанід Маракоў, Уладзімір Арлоў, Максім Лужанін і Аляксандр Гарцуеў.

Ф. ТРОНКА

## "Беларуская думка", N 1

З сёлетняга года часопіс "Беларуская думка" выходзіць у новым афармленні: на яго вокладцы спалучаны выявы знакамітай Белай вежы і калоны будынка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Тым самым падкрэсліваецца сувязь часоў, а "БД" мяркуе і надалей змяшчаць матэрыялы, што расказваюць як пра дзень сённяшні, так і пра багатую нацыянальную гісторыю. А адкрываецца першы за 2001 год нумар часопіса артыкулам галоўнага рэдактара "БД" У. Вялічкі "Будзь шчаслівая, Беларусь!". У артыкуле "Не проста час — філасофія часу" А. Вішнеўскі паказвае як І. Шамякін у сваіх творах з'яўляецца паслядоўным мастацкім летапісцам жыцця беларускага народа ў XX стагоддзі. Г. Яхантава ("Прарок у сваёй Айчыне") прадстаўляе лаўрэата Нобелеўскай прэміі, нашага земляка Ж. Алфёрава. Пра справы беларускіх электроншчыкаў расказвае Г. Булыка ("Каханне на фоне ЭВМ"). "Раўненне на XXI стагоддзе" — выступленне рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта А. Казуліна. Т. Гаробчанка ("Цяпло "Белай вежы") дзеліцца ўражаннямі ад чарговага тэатральнага фестывалю. У раздзеле "Літаратура і жыццё" прапануюцца вершы В. Шніпа і апавяданне І. Навуменкі "Э, цёплае, добрае лета...".

САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Болю на зямлі ўсё больш

Так, болю на зямлі ўсё больш і больш. Для тых, хто здольны яго адчуць. Людзі, збалелыя ад крыўдаў, ад здзекаў, ад пакут, адыходзяць навек туды, адкуль вяртання няма, а свой боль пакідаюць на зямлі жывым. Дык ён і накопліваецца, дык яго ўсё болей і болей. Паэту Алесю Чобату свой боль пакінула, апрача іншых, і сястра Тамара.

*у душы адзічэлай гола*
*што зрабіла яна каму*
*што пажыць ёй вы не далі*
*не бывае дна залатога*
*не баліць ёй цяпер нічога*
*боль пакінула на зямлі*

Гэта — з верша Чобата "Рэквіем", з яго новай кнігі "Тутэйшая Сага". Добра, што ён здагадаўся гэту сваю "Сагу" мне перасла́ць. Ён не памыліўся: я гатовы да свайго болю далучыць і ягоны, да сваёй скрухі — і ягоную. Я павінен быў прачытаць гэту кнігу, пабыць з ёю сам-насам. Ці трымаў я калі ў руках такую, народжаную на нашай зямлі, кнігу паэзіі? Такую балючую, такую горкую, такую гнеўную, такую страшную? Такую бязлітасную... Ну, вядома, "Спадчыну" Купалы часта здымаю з паліцы — каб яшчэ і яшчэ раз развогніць сэрца, развярэдзіць раны, падзарадзіць душу няшчадным купалаўскім гневам. Каб яшчэ і яшчэ раз адчуць сорам за свой час, пра які толькі і можна сказаць: "Да, были хуже времена, но не было подлей..." Успамінаю пранізаныя нясцерпным болем радкі Пімена Панчанкі, Ларысы Геніюш, Уладзіміра Караткевіча... А яшчэ? Можна прыгадаць і яшчэ... Але — каб уся кніга, ад пачатку да канца, была насычана болем і гневам... Болем крыўды, знявер'я, роспачы, гневам адчаю, пагарды, нянавісці...

У нашым звыклым уяўленні паэзія — гэта нешта прыгожае, ідэальнае, нябеснае, гэта сінонім дабрыні, любові, спагады, гэта крыніца веры, надзей, спадзяванняў. Дык вось у кнізе Чобата — усё наадварот: нічога прыгожага, узвышанага, ідэальнага, ніякай прыдуманасці, мройнасці, летуценнасці, ніякага спачування "тутэйшым". А толькі фактура, толькі рэаліі жыцця, рэчаіснасці, — і на гістарычным узроўні і на бытавым, і ў мінулым і ў сённяшнім (у Чобата яно непадзельнае — быційнае і бытавое, вечнае і часовае). Усё — праўда і рэальнасць, ад якой на душы толькі боль, горыч, крыўда, цяжкі одум і амаль роспач.

Так, ён бязлітасны да жыцця, у якім пакутуе, да часу, што стаў ягоным (іншага не будзе), да людзей, сярод якіх жыве, — да іх дурноты, да іх бяскрыласці і апушчэнства, да іх дробнай драпежнай хцівасці. Ну, а найперш — да сябе, вядома.

*Пераходны час. Ні зіма, ні восень.*
*Тэлесерыял "Тутэйшая Сага".*
*Едзе гною воз. Спіць мужык на возе.*
*Зверху Вілы тырчаць — без ніякага сцяга.*

Без ніякага сцяга... Вось іменна. Спім на гнаі — і толькі. Можаце назваць гэты сімвалічны малюнак занадта змрочнай сатырай. Можаце, аўтар пярэчыць не будзе. А можаце ў гэтым убачыць лёс народа, да якога належыце, і заплакаць. Пра лёс народа, зрэшты, уся кніга. Да гэтага народа належаў, між іншым, кароль Станіслаў Панятоўскі. Так, ён быў "прыродным беларусам — бо нават прозвішча сваё пісаў праз "у"!

*Бо ён даваў усім налева і направа —*
*паводле звычаю між нашай вяскаўнёй...*
*А то ж спакою не было даўней, мой Божа —*
*шумеў чарот і дрэвы гнуліся, пся маць!*
*Ды беларус адзін сапраўдны толькі можа*
*Рэч Паспалітую на тры канцы раздаць.*

Рэаліі тутэйшай гісторыі — і далёкай і зусім блізкай — у Чобата амаль у кожным вершы. Таму чытачам недасведчаным у ёй некаторыя мясціны могуць паказацца цьмянымі. Затое дасведчаныя зведаюць горкае пачуццё сваёй далучанасці да гэтай трагічнай гісторыі. Якія толькі падзеі і постаці з нашай даўніны ні ўваскрэшаны паэтам! Асобы буйныя, велічныя, трагічныя, і досыць кур'ёзныя... Падзеі таксама пададзены ў перапляценні трагічнага з камічным, гратэскавым, як у лёсе Леона Ройзмана з "губернскага места Гародні". Гістарычныя факты для абдумвання і асэнсавання абраны знакавыя, факты-вехі: перамога над крыжакамі, унія, паўночная вайна, 1863 год, 1894 год у Гродні, 1920 год, 1939 год, сон 1941 года, зіма 1980-га... Летапіс Краю ў рэалістычных дэталях, за якімі — пэўная эпоха, канкрэтны час. Гісторыя ў паасобных штрыхах, у фрэсках. Фрэскавы эпас. Так, гэта паэзія пераважна эпічная, лірычнага ў кнізе мала. І таму жанравае вызначэнне "Сага" — вельмі дакладнае.

Калі ўсе вершы "Сагі" пра гістарычны лёс беларускага народа абагуліць адным галоўным матывам — гэтым матывам будзе... праклён... Страшны непераступны праклён. Праклён і ад мёртвых, і ад жывых. Каму і за што? А дзеля гэтага пачытайце кнігу самі. Можа, я памыляюся ў сваім успрыманні.

Як і мае быць у паэзіі глыбокай, штрыхі да гісторыі "тутэйшых" прымушаюць думаць пра гісторыю ўсяго роду чалавечага. Але баліць перш за ўсё сваё — блізкае, роднае, крэўнае, — так у жыцці было, ёсць і будзе. Невыпадкова столькі выдатных вершаў у кнізе прысвечана Максіму Багдановічу і яго бацькам. Паэтычны вянок на магілу генія. Вянок на алтар яго бяссмерця. Даніна вечнай удзячнасці. Укленчанне — з просьбай дараваць за няспраўджанае, за змарнаванае, за страчанае, за бяздарна зглумленае, прафуканае, прапітае...

***Прарокцтваў не прыпісвайце Максіму!***
***Да беларусаў пасылаць Месію***
***даўно не мела сэнсу — і таму***
***быў лепшы талент дадзены яму.***

Сышоўшы ў магілу юнаком, Багдановіч "не дажыў да Актаў і Дэкрэтаў".

***А каб дажыў — схавалі б глуха ў шафу***
***і раздавілі ў лагеры, як жабу,***
***пусцілі Слова на распыл ляцець.***

***О, што за Край, пракляты і нялюбы,***
***дзе Кнігу, Волю і Жыццё ад згубы***
***...заўчасная адна ратуе смерць.***

І з імем Багдановіча ў сэрцы, з Духам Паэта, "Трэйцім у Тройцы Святой" чыніць Алесь Чобат судужо над сваім часам, над нашым сення.

***Села вёска і ловіць***
***грошы, крэслы, чыны.***
***Лішні там Багдановіч,***
***дзе ўладкаваліся мы.***

Скажаце: занадта жорстка? Жорстка, вядома, але — хіба не праўда? Хіба не лішні Максім Багдановіч у гэтым пошлым свеце? Бацька паэта Адам, піша Чобат, "ужо з хамаў вылез — і Максім не на грошы маліўся, і сэрца білася вольна". А мы — а мы яшчэ з хамаў не вылезлі, бо яшчэ молімся імення на грошы, на падачкі, на ўзнагароды... І паэту Чобату ад гэтага балюча. Асабліва — за лёс няшчасных "тутэйшых кнехтаў", што перасяліліся ў горад, каб канчаткова страціць сваё аблічча і ператварыцца ў нацыю без імя. Бо ў горадзе тон задаюць прышлыя, "крыжакі". Дзеці...

***Дзеці савецкай халявы. Ні племені, ані роду.***
***Ехалі на каўбасы сюды з прамысловага Ўсходу.***
***Бронзавы Ленін на плошчы як калектыўны партрэт.***
***Кажуць — сям'я галоўнае. Але ж мэта жыцця абед.***

***Мэта жыцця абед і ў тутэйшых кнехтаў таксама.***
***Сядзіць па дурных інтэрнатах ачмурэлая вяскаўня.***
***Горка. Дзеці. Жоўтая жыжа ляціць з-пад санак.***
***Падрастае новая нацыя. Нацыя без імя.***

Цяжка чытаць экзістэнцыялісцкія вершы Чобата пра нашу яву. Занадта шмат у іх страшнай праўды і безвыходнай, як праклятце, гаркаты.

Дзіўнае пісьмо, мова, стылістыка "Сагі" Чобата. Сатыра? Сарказм? Іронія? Але ж пагляд іранічны — пагляд трохі збоку, "астаранёны", а тут — усё у сэрцы і з сэрца. Сям-там горкая самаіронія? Так, сустракаецца. А ўвогуле... а ўвогуле смеху, у дакладным сэнсе слова, у гэтай кнізе няма. Боль не саступіў яму месца. "Навошта сэрца і рукі, калі душа без надзеі?! Данута, мы — беларусы, наша месца ў музеі". Хіба гэта смех?

Няма ў кнізе і фабрыкацыі метафар, у сэнсе — гульні ў вобразныя асацыяцыі дзеля паэтычнага ўквечання мовы. Усе яго метафары, дакладней, метафары-сімвалы — сацыяльныя, і нават нярэдка палітычныя.

Кніга "Тутэйшая Сага" Чобата — вельмі беларуская: усім духам, зместам, атрыбутыкай, стылем. І канешне ж — мовай. Мова багатая, жывая, дакладная і — не проста беларуская, а гродзенская, можа, нават заходне-гродзенская, з беларуска-польскага памежжа. Дык і добра. А нашто мне, каб ён пісаў моваю маёй Лагойшчыны.

Вось такую арыгінальную, яркую, моцную кнігу вершаў выдаў паэт Алесь Чобат. Выдаў у колькасці 200 паасобнікаў, і то — дзякуючы смаленскім сябрам з часопіса "Годы". Самы раз бы мне цяпер напісаць: рэкамендую "Тутэйшую Сагу" на Дзяржаўную прэмію Беларусі. Бясспрэчна, было б справядліва. Ды і аўтару не зашкодзіла б (бо што за жыццё, калі "Раз за дзесяць гадоў, як сабаку, Жэнька Лотвін падасць па пляшку"). Але зрабіць гэта я не магу. Не ведаю, ці растлумачу чаму. Кніга Чобата — голас распятага сэрца. Адчуванне такое, што браць за яе прэмію — як браць прэмію за помнік, які ты зрабіў на магілу роднае Маці. І прымаць затым віншаванні з чарговай перамогай. Нас прывучылі да прэмій, і мы іх чакаем, і бяром. Часам — безаглядна. Пра гэту безаглядна́сць шмат сказана і ў кнізе, якую мне пераслаў выдатны беларускі паэт Алесь Чобат.

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

13 лютага ў Доме літаратара адбудзецца вечарына "Світальны подых...", прысвечаныя дню Святога Валянціна. Арганізатары свята Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі саюз мастакоў, Саюз тэатральных дзеячаў, Беларускі саюз дызайнераў. У праграме выступленні маладых паэтаў, акцёраў, выстава маладых мастакоў. Пачатак а 18-й гадзіне (Вялікая зала Дома літаратара).

•

31 студзеня ў бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў прайшла літаратурная сустрэча, прысвечаная юбілею пісьменніцы Валянціны Куляшовай. Асоба Валянціны Аркадзьеўны заўсёды звязваецца з асобай яе бацькі Аркадзя Куляшова і таму ў гэты дзень неаднойчы ўзгадвалася яго імя. Як сказала журналістка Вера Савіна, творчасць бацькі і дачкі — гэта дуэт двух суразмоўцаў, двух талентаў. Свае слова пра пісьменніцу сказалі Мікола Аўрамчык, Анатоль Вярцінскі, Алесь Масарэнка, Навум Гальпяровіч, Іван Курбека. Падзяліўся сваімі ўспамінамі стрыечны брат Валянціны Аркадзьеўны літаратуразнаўца Віталь Маслоўскі. Павіншавалі пісьменніцу прыйшлі навучэнцы школы-ліцэя пры БДУ, гімназіі N 1 імя Ф. Скарыны і СШ N 160 г. Мінска.

•

Зноў бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў сабрала гасцей. У нашу літаратурную гасцёўню прыехалі вучні ліцэйскага класа СШ N 10 г. Слуцка, каб пазнаёміцца з паэтамі Уладзімірам Паўлавым і Галінай Каржанеўскай. Прывітальное слова сказаў намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч. Уладзімір Паўлаў і Галіна Каржанеўская расказалі школьнікам пра свой жыццёвы і творчы шлях. Гучалі вершы. Напрыканцы сустрэчы пісьменнікі адказалі на пытанні і пакінулі свае аўтографы.

# “Нацыянальную культуру мы разглядаем як важнейшы стратэгічны рэсурс дзяржавы”

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

не толькі садзейнічаюць развіццю нашай культуры, але і з’яўляюцца цывілізаваным спосабам зараблення грошай. Бо фестывалі фінансуюцца, на іх прадстаўляюцца лепшыя ўзоры творчасці. Спаборнічайце і атрымлівайце грошы. Тэма фестываляў таксама можа стаць прадметам нашага сённяшняга абмеркавання.

Красамоўны факт — 24 студзеня гэтага года на юбілейнай 25-й асамблеі Міжнароднага аб’яднання фестываляў і конкурсаў пры ЮНЕСКА наш фестываль мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску” прызнаны лепшым фестывалем 2000 года. Гэта званне аспрэчвалі 179 фестываляў з 60 краін свету. За апошнія 35 гадоў яно было прысуджана толькі шасці фестывалям, сярод якіх такія сусветна вядомыя, як “Сопат” і “Сан-Рэма”. А цяпер і наш славянскі фестываль.

А вы ж памятаеце, колькі скептыкаў і крытыкаў было, калі мы стараліся захаваць фестываль, узяўшы яго пад прэзідэнцкі патранаж. Выдатная перамога дастойна ўвенчвае працу. І гэта не адзіны прыклад. Цяпер па гэтым фестывалі ведаюць і ацэньваюць нашу Беларусь. А ў нас жа такіх фестываляў, такіх яркіх мерапрыемстваў шмат. І яны характарызуюць аблічча нашай краіны.

Нацыянальным гонарам з’яўляюцца нашы выдатныя калектывы: Дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Цітовіча (дзяржаўны), Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Шырмы (дзяржаўная), Дзяржаўны акадэмічны народны аркестр імя Жыновіча (дзяржаўны), Дзяржаўны ансамбль танца (дзяржаўны), Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль «Харошкі» (дзяржаўны) і многія іншыя. Як бачыце, усе калектывы дзяржаўныя. Вось вам пацвярджэнне на прыкладзе культуры, што такое дзяржава. І якой павінна быць роля дзяржавы ва ўздыме і развіцці культуры.

На Алеі зорак у Маскве запаліліся дзве «зоркі» — Ігара Лучанка і Уладзіміра Мулявіна. Гэта прызнанне ўкладу беларусаў у саюзную скарбніцу. Несумненна, у гонар многіх прысутных сёння ў гэтай зале маглі б быць запалены такія ж зоркі. Гэта доказ высокага ўзроўню беларускай культуры, нашага прафесіяналізму і духоўнай сілы.

Трэцяе. Дзякуючы таму, што мы захавалі найбольш каштоўнае з дасягненняў нацыянальнай культуры савецкага перыяду, не пайшлі па шляху ломкі гэтай тонкай сферы і бяздумных пераўтварэнняў, наша краіна і сёння дастойна выглядае ў сусветнай культурнай прасторы.

Актыўна ідзе інтэграцыя нацыянальных дасягненняў Беларусі ў сусветную культуру. Развіваецца міжнародная дзейнасць. Асаблівая ўвага ўдзяляецца аднаўленню і развіццю культурных сувязяў з Расійскай Федэрацыяй.

Беларускае мастацтва добра ведаюць і высока цэняць на ўсіх кантынентах. Нашай краінай установлены сувязі ў галіне культуры і мастацтва больш як з 30 дзяржавамі свету. Толькі ў 2000 годзе 3 тысячы 500 майстроў мастацтваў з вялікім поспехам выступілі ў 16 замежных краінах.

Міжнароднае прызнанне атрымаў у мінулым годзе Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, заваяваўшы галоўны прыз на тэатральным фестывалі ў Эдынбургу (Шатландыя).

Народныя артысты Савецкага Саюза Расціслаў Янкоўскі і Генадзь Аўсяннікаў сталі лаўрэатамі Маскоўскага міжнароднага тэатральна-тэлевізійнага фестывалю “Артыст канца XX стагоддзя”.

Плённа працуе і Нацыянальны тэатр оперы (дырэктар Сяргей Картэс). Вельмі цікавым з’яўляецца сумесны германа-беларускі культурны праект, вынік якога — пастаноўка оперы «Фаўст» на музыку А.Г.Радзівіла. Тэатр неаднаразова гастраляваў за межамі Беларусі — у Аргенціне, Швейцарыі, Ізраілі, Іспаніі (8 разоў), у Германіі і Бразіліі. Значнай падзеяй у галіне культурнай палітыкі стала падпісанне Пратакола-мемарандума аб супрацоўніцтве паміж беларускім урадам і Арганізацыяй Аб’яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры. Калі падпісваюцца такія дакументы, значыць, у свеце нас цэняць.

Чацвёртае. За апошнія гады памеры асігнаванняў на культуру з рэспубліканскага бюджэту павялічыліся больш як у два разы (з 0,8 працэнта расходнай часткі бюджэту ў 1994 годзе да амаль двух працэнтаў у 2000-м).

Вядома, гэта яшчэ невысокі ўзровень бюджэтнага фінансавання. Але калі ўлічыць, якія цяжкасці перажывалі ўсе галіны народнай гаспадаркі і які эканамічны спад быў да 1996 года, тады па заслугах можна ацаніць павелічэнне ў два разы фінансавання культуры. У той жа час на ўсёй постсавецкай прасторы дзяржаўная падтрымка ўсёй сацыяльнай сферы радыкальна згортвалася. Культуру, мастацтва кідалі на самазабеспячэнне. У нас гэтага не адбылося. Таму яна не толькі выжывала, але і ўмацавала свае пазіцыі ў дзяржаве і грамадстве.

І калі гавораць, што дзяржава не ўкладае грошы ў культуру, мне з гэтым складана пагадзіцца. Назначаючы новага міністра культуры, я сказаў: перш чым ісці прасіць грошай, вярніце і аддайце людзям, якія працуюць у культуры, тыя сродкі, якія абарачаюцца ў калякультурным бізнесе. Паглядзіце, многае аддадзена ў прыватныя рукі. Чаму сёння філармоніі, як гэта было раней, не займаюцца арганізацыяй канцэртнай дзейнасці? Хіба гэта не бачаць чыноўнікі ад культуры ва ўрадзе ды і ў Адміністрацыі Прэзідэнта? Вы атрымаеце дадатковае фінансаванне пасля таго, як зможаце рацыянальна выкарыстаць тыя сродкі, якія ляжаць на паверхні. Яшчэ некалькі слоў. У бліжэйшы час мы плануем павялічыць асігнаванні на культуру ў два разы. Але давайце параімся, як мы будзем гэта рабіць.

Урад прадставіў мне варыянт Канцэпцыі рэфармавання заработнай платы. Мы паспрабуем адмовіцца ад заганнай практыкі, якая ўстаялася. Асобна будуць вылучаны сацыяльна-культурная сфера, дзяржаўная і ваенная службы. Будзе прыменены дыферэнцыраваны падыход, які нацэлены на тое, каб збалансаваць зарплату. Бо нельга ўсіх падганяць пад адну шкалу. Гэта вельмі сур’ёзны крок, які азначае па сутнасці рэвалюцыю ў аплаце працы. Але, падкрэсліваю, перад тым, як прыняць канчатковае рашэнне, мы ўсё абгрунтавана і дасканала ўзважым.

Другое. Плаціць творчым работнікам дастойную зарплату, вядома, трэба. Але ў той жа час вельмі важна не забываць пра будаўніцтва важнейшых аб’ектаў нашай культуры. Прыклад таму — Палац Рэспублікі і іншыя ўжо завершаныя даўгабуды. Навошта я гэта кажу? Павялічыўшы асігнаванні ў два разы, можна падзяліць іх па рублю кожнаму. Грошы акуратна праядзім і нічога не пабудуем, нічога пасля сябе не пакінем. Адкрыю сакрэт. Напрыклад, у якасці добрай памяці мне, як прэзідэнту, хочацца пакінуць новы, сучасны будынак Нацыянальнай бібліятэкі. *(Апладысменты).* З усіх культурных аб’ектаў у цэнтры ўвагі, я так лічу, павінна стаяць бібліятэка. Таму што гэта крыніца мудрасці. Таму што там захоўваюцца і народная памяць, і культура, і іншыя каштоўнасці. Тое ж самае можна сказаць і аб музеях. Таму ў гэты складаны час мы фінансуем будаўніцтва і рэканструкцыю Нацыянальнага мастацкага музея.

Таму давайце вызначымся. Альбо мы падзелім двайное павелічэнне фінансавання, аддаўшы кожнаму па рублю, альбо ж мы сканцэнтруем сродкі і накіруем іх на тыя аб’екты, без якіх краіна не можа быць паўнацэннай дзяржавай. Мы павінны зрабіць нашу Нацыянальную бібліятэку суперсучасным цэнтрам ведаў і культуры. *(Апладысменты).*

Паважаныя ўдзельнікі нарады!

Я невыпадкова пачаў з ацэнкі станоўчых тэндэнцый. Таму што яны важкія і значныя. Не заўважаць іх могуць толькі людзі неаб’ектыўныя і аматары ачарнення. Як справядліва казаў прападобны Анатоль Опцінскі: “Разважлівы заўважае спачатку дабрадзейнасці, а неразумны — заганы і недахопы”.

Наперадзе нас чакае вельмі шмат спраў і важных задач. Таму да праблем у нас падыход практычны — шукаць шляхі іх вырашэння. Сярод найбольш вострых праблем і негатыўных тэндэнцый, характэрных у цэлым для ўсіх сфер культуры, можна назваць чатыры.

Першая. Аб ёй больш за ўсё гавораць — недастатковасць фінансавання культуры. Я аб гэтым ужо гаварыў. І гэта перш за ўсё не зусім эфектыўнае выкарыстанне фінансаў. Грошы трэба ўкладаць адрасна! Менавіта туды, дзе ёсць аддача, дзе ёсць перспектыва і прагрэс. Падтрымліваць у першую чаргу тых, хто заўтра можа даць вынік. У кожнай галіне культуры і мастацтва можна вызначыць перспектыўныя напрамкі і энергічна іх развіваць. Будзе правільна, калі заробленыя творчымі калектывамі і саюзамі сродкі атрымаюць некаторыя паслабленні па падатках.

Другая праблема. Асаблівасць фарміравання матэрыяльна-тэхнічнай базы культуры — гістарычная цыклічнасць, разбуральныя войны, затым перыяды аднаўлення і будаўніцтва новых культурных аб’ектаў. Пабудаваныя ў розных гарадах і раёнах, гэтыя збудаванні старэюць адначасова і таму патрабуюць велізарнейшых сродкаў на рамонты і аднаўленне.

Больш за дзевяцьсот клубных устаноў, 350 бібліятэк, 186 дзіцячых школ мастацтваў патрабуюць неадкладнага капітальнага рамонту. Многія клубы і бібліятэкі знаходзяцца ў аварыйным стане. Практычна кожная ўстанова культуры мае патрэбу ў музычных інструментах, кіна-, відэа- і аўдыётэхніцы, сучасных тэхнічных сродках. Велізарных сродкаў патрабуюць рэстаўрацыйныя работы на нашых важнейшых рэспубліканскіх культурных аб’ектах.

Савету Міністраў трэба прадугледзець выдзяленне неабходных сродкаў на рэстаўрацыю будынкаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка "Нясвіж", замка Мір, на рэканструкцыю мемарыяльнага комплексу “Брэсцкая крэпасць-герой”, мемарыяльных комплексаў “Хатынь” і Курган Славы, на ўзвядзенне будынкаў Нацыянальнага мастацкага музея, Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі і шэраг іншых аб’ектаў. *(Апладысменты).*

Думаю, што аблвыканкамам і райвыканкамам трэба ўзяць пад асаблівы кантроль выкананне праграмы будаўніцтва і рамонту аб’ектаў культуры ў раённых гарадах і ў сельскай мясцовасці.

Трэцяя праблема. Сістэма аплаты працы дзеячаў культуры. Сапраўды, сітуацыя складаная. У агульных рысах я вам абмаляваў, як гэта праблема будзе вырашацца на дзяржаўным узроўні. Паводле даных за мінулы год, сярэдняя заработная плата работнікаў культуры і мастацтва склала крыху больш за 70 працэнтаў сярэдняй зарплаты па рэспубліцы. Без дзяржавы, я думаю, вы гэтыя пытанні не вырашыце.

Мной пастаўлена задача ўраду — давесці сярэднюю заработную плату ў сацыяльна-культурнай сферы да ўзроўню, эквівалентнага 100 доларам ЗША ў месяц, да канца гэтага года.

Адной з эфектыўных мераў павінна стаць прымяненне дыферэнцыраваных падыходаў. Пры вызначэнні ўзроўню матэрыяльнага ўзнагароджання людзей, занятых у сферы культуры і мастацтва. Трэба ўпарадкаваць сістэму аплаты працы, прадугледзеўшы асаблівыя ўмовы аплаты для выдатных работнікаў культуры, як мы вырашылі, напрыклад, для дзеячаў навукі, аховы здароўя. Павінны больш атрымліваць і артысты вядучых творчых калектываў. І ўраўнілаўкі тут быць не павінна! *(Апладысменты).*

Частковым вырашэннем вострай праблемы жылля для дзеячаў мастацтваў павінна стаць прадастаўленне ім з боку дзяржавы доўгатэрміновых і льготных крэдытаў і фінансавых пазык на яго будаўніцтва. Пашырэнне сеткі службовага жылля. Я хачу папрасіць урад, губернатараў і старшынь райвыканкамаў: давайце пачнём з таго, што ў Мінску для творчых работнікаў у гэтым годзе пабудуем два дамы, у абласных цэнтрах — па адным, і па некалькі кватэр выдзелім у раёнах. Зрабіце і далажыце вынік да канца гэтага года. *(Апладысменты).*

Чацвёртая праблема — якасны ўзровень работы, запатрабаванасць людзьмі твораў мастацтва. Словам, народнасць, як асноўная якасць, ідэйная накіраванасць і жыццёвая пазіцыя творцаў. Іх высокі патрыятызм.

Класік нашай літаратуры Якуб Колас пісаў: “Народ бязмежна багаты ў сваёй мастацкай творчасці. Вучыцеся ў народа!”. Настолькі правільная і глыбокая думка і актуальны запавет маладому творчаму пакаленню, што лепш і не скажаш!

Бачыць свет вачамі свайго народа, суперажываць з ім гісторыю і сучаснасць. Разам з ім жыць і тварыць. Бадай, у гэтым рэальнае праяўленне патрыятызму нашых дзеячаў культуры і мастацтва.

Калі прасочваеш развіццё патрыятычных традыцый беларускай культуры, асабліва ў гады Савецкай улады, то сутыкаешся з вельмі цікавай з’явай. Многія выдатныя нашы творцы прайшлі школу Чырвонай, а потым і Савецкай арміі. Гэта і Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва, Аркадзь Куляшоў. Гэта і Мікалай Яроменка, якога мы, на вялікі жаль, нядаўна страцілі. Гэта і наш праслаўлены маэстра Міхаіл Фінберг. І многія-многія іншыя. Але я хацеў бы сказаць яшчэ аб адной катэгорыі “людзей са зброяй”, калі можна іх так назваць. Аб палітычных работніках Чырвонай Савецкай арміі. Палітруком батарэі ваяваў Іван Мележ. Палітруком зенітнага разліку быў у гады Вялікай Айчыннай вайны Іван Шамякін, якому я нядаўна ўручыў высокую дзяржаўную ўзнагароду.

Вядома, ёсць адзінкі, якіх і армейскае, нават баявое мінулае не выратавала. Кан’юнктурнае палітыканства літаральна спапяліла іх выдатныя здольнасці. І яны сёння годныя толькі на выдумлянне прымітыўных палітычных агітак. Яны абзываюць народ, здзекуюцца з гераізму бацькоў і дзядоў, у гады Вялікай Айчыннай вайны, апашляюць слаўную баявую і працоўную гісторыю. Гатовыя пазбавіць нас права на выбар самастойнага шляху развіцця, крычаць, “ляментуюць”, толькі б свет іх пачуў і ў той жа час сябе ўзводзяць у ранг духоўных апосталаў нацыі. Гэтакага Месіі, а заадно патрабуюць ад дзяржавы і прыніжанага імі народа асабліва павышаных знакаў увагі як у матэрыяльных адносінах, так і ў выглядзе розных узнагарод і званняў, грантаў. Ці не парадокс гэта?

Скажу шчыра: мы за свабоду творчасці, за разнастайнасць стыляў і жанраў у мастацтве. Але дзяржава не можа падтрымліваць антыдзяржаўныя тэндэнцыі і антыдзяржаўныя творы. Бо мы не самазабойцы, каб дазволіць разбураць тое, што з такой цяжкасцю і стараннем ствараем, — нашу дзяржаўнасць, нашу Айчыну. Яе сучаснасць і цудоўную будучыню!

Патрыятычныя традыцыі беларускай культуры, закладзеныя нашымі класікамі Якубам Коласам і Янкам Купалам, развітыя Іванам Мележам і Максімам Танкам, павінны жыць і ў творчасці сучасных майстроў культуры.

Многія нашы сучасныя пісьменнікі прынялі творчую эстафету ад класікаў і прадаўжаюць лепшыя традыцыі. Гэта Мікалай Кусянкоў, Георгій Марчук, Генадзь Пашкоў, Таіса Бондар і іншыя паэты, празаікі і драматургі. Я не хачу ўсіх іх пералічваць, таму што гэта зойме доўгі час. Не магу не сказаць аб адным з негатыўных аспектаў праблемы развіцця культуры — аб амаральнасці, эстэтызацыі пачварнага, прапагандзе насілля і разбэшчанасці.

На жаль, разам з працэсамі дэмакратызацыі прыходзяць у грамадства і агідныя з’явы — наркаманія, прастытуцыя, насілле, пашырэнне крыміналу. Адным словам, адкрылася “скрынка Пандоры” і з яе хлынуў паток людскіх заган і зла. Больш за ўсё ад гэтага пакутуюць яшчэ слабыя душы маладых.

Неабходна адзінай сцяной стаць на абарону духоўнасці і маральнага здароўя нацыі дзеячам культуры, свяшчэннаслужыцелям, прадстаўнікам улады.

Я патрабую ад Міністэрства культуры, Дзяржкамдруку, Белтэлерадыёкампаніі, Рэспубліканскай экспертнай камісіі па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, жорсткасці і насілля ў сродках масавай інфармацыі, рашучых і ўзгодненых дзеянняў у гэтым напрамку. Да работы неабходна прыцягнуць людзей актыўных і энергічных, якія не будуць чакаць каманды “зверху”, а будуць дзейнічаць самастойна і прафесійна.

Паважаныя таварышы!

Акрамя агульных праблем, кожная сфера культуры мае свае вострыя пытанні, адказы на якія мы павінны разам, у тым ліку і сёння, знайсці з агульнадзяржаўных пазіцый.

**Важнейшыя напрамкі дзейнасці і прыярытэты культуры**

Адным з прыярытэтных напрамкаў культурнага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь з’яўляецца ўсебаковая падтрымка з боку дзяржавы прафесійнага мастацтва і мастацкай творчасці.

1. Дапамога развіццю выяўленчага мастацтва павінна стаць часткай агульнадзяржаўнай праграмы “Культура”.

У нас аўтарытэтная мастацкая школа, сусветнавядомыя майстры, якія актыўна прапагандуюць беларускае мастацтва. Гэта М. Савіцкі, В. Грамыка, У. Стальмашонак, Л. Шчамялёў, М. Данцыг, Г. Вашчанка і многія-многія іншыя.

2. Хачу падкрэсліць неабходнасць развіцця мастацкай і літаратурнай крытыкі — сістэмы рэгулярнага рэцэнзавання і аб’ектыўнай ацэнкі твораў жывапісу, тэатра, эстрады, кіно, паэзіі і прозы. А то ж апошнім часам засталіся толькі кампліментарныя выступленні ў прэсе па прынцыпе ўзаемных паслуг: “Ты мяне пахваліў у адной газеце, я цябе ў часопісе”. А каб быў канцэптуальны, эстэтычны разбор твораў, ацэнка тэндэнцый — такое сустрэнеш рэдка. І дарэмна. Бо — гістарычны прыклад — руская літаратура 19 стагоддзя развівалася і дасягнула сусветных вышынь менавіта дзякуючы крытыцы. У нас жа многія дзеячы мастацтва, і асабліва літаратуры, зусім не прымаюць аналітычнага разбору іх творчасці, лічаць гэта палітычным ганеннем.

*(Працяг на стар. 13)*





## "Гасціна"

**Летась грамадскасць краіны, як вядома, шырока адзначыла 90-годдзе з дня нараджэння Ларысы Геніюш. Прыемна, што нарэшце была нададзена належная ўвага і выданню яе мастакоўскай спадчыны. Ладны том пабачыў свет у "Беларускім кнігазборы", зборнік "Ластаўка" выпусціла выдавецтва "Юнацтва". 2000-м годам пазначаны і дарунак, зроблены прыхільнікам творчасці Ларысы Антонаўны "Мастацкай літаратурай": кніга "Гасціна" выйшла ў серыі "Беларуская паэзія XX стагоддзя".**



**Укладальнік зборніка Зінаіда Пазняк за назву ўзяла верш Л. Геніюш "Гасціна", дзякуючы якому, думаецца, ужо можна атрымаць пэўнае ўяўленне аб тым, што хвалявала і непакоіла паэтэсу, да чаго найперш гарнулася яе душа. Ва ўсякім разе ў гэтым творы прысутнічае матыў еднасці аўтара з родным народам, з роднай мовай, з роднай старонкай:**

*Калі палеткі ад жніва астынуць,*
*як ляжа сум асенні на лугі,*
*захочацца ў сялянскую гасціну*
*на верасовы мёд і пірагі.*

*Тут п'юць з прынукаю:*
*— І на здароўе!*
*П'е гаспадар,*
*і п'е нявольнік-госць.*
*Плывуць застоллем шчырыя размовы,*
*людскія сэрцы свецяцца наскрозь.*

*І я тут п'ю з вялікай насалодай.*
*П'ю давідна, да пеўнікаў,*
*да дна.*
*Не з чаркі — з сэрца роднага народа,*
*пяюння-мова,*
*п'ю цябе да дна.*

**Свайго роду эпіграфам да кнігі вынесены наступныя радкі:**

*Запаветна мара ўсіх часоў:*
*Не біць, не глуміць, не калечыць.*
*Шчаслівa і мірна каб людзям прайшоў*
*Адмераны век чалавечы.*

*Аднолькава кожнаму раны баляць:*
*Піць праўду з жыццёвых крыніцаў,*
*Дастойнасць людскую высока трымаць,*
*А рэшта? — А рэшта — драбніцы!*

**Уверсе над імі пазначана: "Беларуская паэзія XX стагоддзя", злева партрэт Л. Геніюш — маладой, прыгожай, з пражскай часіны яе жыцця, калі яшчэ небасхіл над галавой быў бясхмарным. І жылося хораша. Гэтаксама хораша верылася ў лепшае. І падумаць не магла, што недзе там, за небакраем, пачнуццанай суровейшыя выпрабаванні.**

**Канечне, "аднолькава кожнаму раны баляць", але яе раны смылелі куды больш балюча. З-за несправядлівасці, якая не мінулася з гадамі турмы, высылкі. З-за той несправядлівасці, якая спадарожнічала ёй усё далейшае жыццё. Аднак, нягледзячы ні на што, у душы засталася жыццялюбам і аптымістам. Выжыць, выстаяць, вытрымаць дапамагала любоў да зямлі, на якой нарадзілася і якой ніколі не здраджвала. А яшчэ верыла ў свой народ, у Беларусь, якая абавязкова адродзіцца, стане Краінай. А менавіта як Краіна паўстае Беларусь ужо ў многіх ранніх вершах Л. Геніюш, якая, не задумваючыся, неадноўчы магла б паўтарыць:**

*Мудрасць спелую сівых вякоў*
*п'ю з народных жывых крыніцаў.*
*Паважаю чужых багоў,*
*Ды прывыкла сваім маліцца.*

**Кніга "Гасціна", як і ўсе зборнікі серыі, з густам аформлена. На вокладцы фрагмент карціны С. Катковай "Подых вечаровы", на франтыспісе — малюнак М. Барздыкі. Ды і наклад прыстойны — тры тысячы адпаведнікаў.**

**Міхась ГЕНЬКА**

ЮБІЛЕІ

# Адламала галінку...

Беларускі феномен сёння ў цэнтры ўвагі цывілізаванага свету. Палітызаваны розум у пошуках адказаў звыкла звяртаецца да лічбаў, працэнтаў, сайтаў у Інтэрнэце, свядома і нават грэбліва ігнаруючы эмацыянальную інфармацыю, якая ўтрымліваецца ў творах беларускіх пісьменнікаў. А дарэмна.

Ёсць у свеце рэчы, якія існуюць у Вялікім Часе і заяўляюць аб сабе не адразу. Але, калі ўжо заяўляюць аб сабе, то пераважвашоць што-небудзь позна. Я маю на ўвазе беларускую ментальнасць, іерархічна найвышэйшы каштоўнасны кампанент грамадскай самасвядомасці, глыбіннае ўздзеянне якога на падзеі доўгатэрміновае, але надзвычай грунтоўнае, як само наканаванне. Выразнікамі яго з'яўляюцца пісьменнікі, мастакі, музыкі — творчыя людзі, прарочая, прагнастычная сіла якіх, арыентаваная не столькі на адлюстраванне сучаснасці, колькі на спасціжэнне будучыні, не раз наглядна дэманстравала свае пераўтваральныя магчымасці.

Іван Мележ не дажыў да часу, калі паняцце "менталітэт" увайшло ва ўжытак, і карыстаўся звыклымі: "народ", "нацыянальны характар", "беларуская душа" і інш. Аднак народатворчую функцыю мастацкай літаратуры пераканана ацэньваў у якасці найвышэйшага прыярытэту сваёй дзейнасці. Больш таго, палемічна абвострана настойваў на сваім (што ўвогуле было ўласціва яму), маючы на ўвазе не столькі павярхоўных і малаадукаваных функцыянераў-дачаснікаў, колькі сваіх вялікіх папярэднікаў, мастацкае слова і думку якіх высока ацэньваў. А сярод апошніх былі Кузьма Чорны, якому ён усё жыццё быў удзячны за блаславенне ў вялікую літаратуру (нездарма прысвяціў яму адно са сваіх лепшых апавяданняў "У завіруху"), Аляксандр Фадзееў, які не пашкадаваў часу, каб уважліва, з алоўкам, азнаёміцца з рукапісам яго рамана-эпапеі "Мінскі напрамак" і падказаць тады маладому аўтару, дзе яго сіла, а дзе слабасць, Іван Тургенеў, Мікалай Някрасаў, Адам Кіркор, Эліза Ажэшка, Аляксандр Купрын, Якуб Колас, Міхась Зарэцкі — усе, хто кінуў хоць калі зацікаўлены позірк на Палессе і палешукоў.

Перад усімі імі, не менш, чым сам, а то і больш таленавітымі, Мележ меў адну перавагу: глядзеў на сваё Палессе не здалёк і збоку, а зблізку, вачамі закаханымі, і менавіта таму такімі відушчымі. Ён меў на ўвазе не толькі існае, але і магчымае, нязменна пераводзячы размову з плана апісання ў план роздуму аб лёсе дарагіх яму палешукоў. Менавіта таму сваю славутую "Палескую хроніку" назваў спачатку шматзначна: "Куды вядуць дарогі". Гэта, зразумела, не назва, а хутчэй за ўсё напрамак, у якім ішлі думкі пісьменніка.

Аднак да гэтай важнай у яго творчым лёсе высновы Мележ ішоў паступова, спачатку амаль вобмацкам, аб чым выдатна сведчаць яго дзённікавыя запісы, апрацаваныя ў канцы жыцця і падрыхтаваныя да друку самім аўтарам. "Першая кніга" — так названая Мележам, які ўсведамляў яе значэнне ў сваім руху да эпічнай задумы, — стала і яго апошняй кнігай. У запісах выразна захавана трывожная атмасфера часу, калі ні сам малады баец, ні хто іншы не маглі ведаць, што іх чакае заўтра. "Гэтыя дні і так ніколі не забудуцца", — сказаў Мележу яго аднапалчанін, пабачыўшы запісы. Мележ у душы быў згодзен з гэтым сцвярджэннем, але за яго вырашаў усё ўжо сам лёс: "...у шпіталі мяне зноў пацягнула да запісных кніжак". Убачаныя рэаліі вайны, факты штодзённага франтавога побыту, падрабязнасці жыцця ў тыле, каларытныя партрэты знаёмых, сяброў, каханых, яскравыя замалёўкі прыроды, дасціпныя дыялогі, цікавыя слоўцы, асобныя выразы, нечаканыя параўнанні, а то і цэлыя сцэны, эпізоды, апісаныя пяром мастака слова, каламбуры, анекдоты, рэплікі, тапаніміка, лічбы. Усё гэта ёсць у дзённіках, запісных кніжках, нататках, накідах Мележа: "Думалася, гэта спатрэбіцца для нейкіх твораў, аб якіх марылася туманна. Не спатрэбілася".

Сапраўды, мала што з ранніх запісаў было выкарыстана пазней пісьменнікам: "Цяпер я разумею больш, чаму так хацелася запісаць усё. Гэта была патрэба жыцця..." Менавіта праца душы, пасланай у гэты свет дзеля таго, каб усё пазнаць і апрабаваць, а, калі пашанцуе, то і назваць многае сваімі імёнамі, адлюстравалася ў мележаўскіх запісах, якія ён рабіў час ад часу, звычайна ў паўзы паміж напісаннем вялікіх твораў. "Дзіўна, з нейкім вострым адчуваннем я адзначаў падзеі сённяшняга дня, — піша І.Мележ. — Дробязі, на якія я звычайна не звяртаў увагі, ўчэпліваліся ў памяць. Усё нібы вылучала гэты дзень з іншых". Яго запісам уласцівае высокае эмацыянальнае і разумовае напружанне: аўтар пакутліва шукае дакладнае і запамінальнае слова, вобраз, параўнанне, каб спасцігнуць тое, што цяжка спасцігаецца ўжо выкарыстанымі спосабамі, сфармуляваць думкі, якія маюць для яго прынцыповае значэнне. Так вопытны мастак (выкарыстоўваю тут прыклад, аднойчы згаданы Алесем Адамовічам) спачатку абводзіць контурам аб'ект паказу, з кожным штрыхом канкрэтызуючы і ўдакладняючы агульны вобраз, які марудна, але няўхільна праступае з-пад яго алоўка ва ўсёй сваёй непаўторнай красе. "Доўгія гады, — тлумачыў Мележ, — усё гэта мне здавалася матэрыялам для нейкага дасканалага твора. Спатрэбілася багата гадоў, каб я зразумеў, што гэта сам па сабе твор, можа, не менш варты, чым той прыдуманы. Бо гэта жывое сведчанне незабыўнага, непадобнага ні на які іншы час".

Спатрэбілася нямала часу, каб зразумець, здавалася, відавочную ісціну, што ў яго душы, памяці, вопіце ёсць нешта такое, чаго няма ні ў кога на свеце. "Няхай гэта будзе сам Талстой", — сказаў пра тое ж паэт. Інакш кажучы, трэба было ўсвядоміць непаўторную эстэтычную каштоўнасць асабіста ўбачанага, перажытага і перадуманага за жыццё. І вось тут нагадваў аб сабе Вялікі Час, які прымушаў пісьменніка задумацца над тым, што не ўсё ў абранай ім прафесіі вырашае талент і праца, але многае, калі не самае галоўнае, залежыць ад гістарычных варункаў.

Пачатак творчасці І.Мележа выпаў на пару панавання калектывісцкай свядомасці, у тым ліку і ў літаратурнай творчасці. Шчасліва ўзбіўшыся ўжо ў апавяданні "У завіруху" на ўласны творчы шлях, стварыўшы ў ім вобраз героя, маладога байца Засмужца, у якім можна ўбачыць шмат агульнага з Васілём Дзятлам, сапраўдным мастацкім адкрыццём празаіка, ён раптам адгукнуўся на "сацыяльны заказ" пісаць "гісторыю сучаснасці", а што магло быць у 40-я гады больш сучасным за ваенную тэматыку, і на доўгі час захапіўся маштабнай задумай рамана "Мінскі напрамак", па сутнасці, павярнуўшы з бальшака на біты шлях. Усе тады ў савецкай літаратуры пісалі ваенныя раманы-эпапеі. Як цяжка давалася Мележу яго рашэнне пісаць пра тое, што ён ведаў лепш за ўсіх на свеце, сведчыць яго ўпартае неразуменне і непрыманне крытыкі, якая знаходзіла гэты твор няўдалым і слабым. Жадаючы давесці сваё, ён ахвяраваў нямала часу і творчай энергіі на дапрацоўку відавочна безнадзейнага ў мастацкіх адносінах рамана, які стаў набыткам літаратурнай гісторыі і прадметам даследавання навукоўцаў. Зрэшты, у вялікага чалавека цікавае ўсё, і яго першыя вопыты, і няўдачы.



*Закончыў раман веку "Людзі на балоце", 1960 г.*

У "Мінскім напрамку" шмат таго, што сёння называецца "савецкасцю" і што з'яўляецца звычайнай прыкметай сацрэалізму, і мала "беларускасці", акрамя, вядома, добрай беларускай мовы, якою напісаны гэты аб'ёмісты твор, асобных запамінальных вобразаў і малюнкаў, нарэшце, вобраза самога аўтара, мужнага і чалавечнага, працавітага і ўпартага палешука. Адзнакі "сацрэалізму" там-сям праступаюць і ў цудоўнай "Палескай хроніцы": найменш — у "Людзях на балоце", дзе на першым плане "жывое жыццё, карэнні якога перапляліся густа, моцна і блытана". І.Мележ быў тыповым "шасцідзесятнікам", які свята верыў у "сацыялізм з чалавечым тварам" і рабіў усё, што мог, каб ачалавечыць, гуманізаваць "сацыялістычную ідэю". У гэтых адносінах ён быў не горшым і не лепшым, а проста — сынам свайго пакалення і сваёй эпохі. Не лаем жа мы Мальера за раялізм, Бальзака за легітымізм, Булгакава, Мандэльштама, Ахматаву за творы, прысвечаныя Сталіну. А вось сваіх класікаў дакараем за кожную ўступку рэжыму. У апраўданне варта нагадаць, што менавіта ў асяроддзі "шасцідзесятнікаў" выгадаваліся творцы будучага духоўнага абнаўлення грамадства. Заслуга І.Мележа ў гэтым працэсе велізарная.

"Людзі на балоце", і Мележ меў рацыю, калі так гаварыў, "у тым выглядзе, у якім яны напісаны", маглі з'явіцца толькі пасля вядомых перамен у жыцці грамадства ў сярэдзіне 50-х гадоў. Калектывісцкая мараль, якая адмаўляла ідэю асобы, саступіла месца "думцы народнай, думцы чалавечай", і гэта было найвялікшаю заваёвай паслясталінскай эпохі, калі маральны аўтарытэт займела ідэалогія "шасцідзесятніцтва", што не магла не ўлічваць тагачасная ўлада. Менавіта тады да Мележа прыйшла ўпэўненасць у тым, што асабісты жыццёвы вопыт, які перапаўняў яго душу, варты пісьменніцкага пяра і агульнай увагі. Гаворка менш за ўсё ішла пра самавыяўленне асобы, і Мележ гэта выдатна ўсведамляў. "Я шырока бачыў поле, па якім ішоў, — натхнёна сцвярджаў празаік, — адчуваў у ім сябе і работнікам, і гаспадаром. Але, што асабліва важна, поле гэтае я не толькі ведаў, я любіў яго. Таму што поле, па якім я ішоў, гэта было маё поле. Гэта было жыццё блізкіх мне людзей і маё жыццё. Я пісаў пра іх і адначасова пра сябе. Гэта было, думаецца, добрае ўзаемнае яднанне герояў, часу і аўтара".

У "палескіх" раманах Мележа ўражвае вось гэта — шырыня погляду на жыццё, людское шматгалоссе, багацце праяў чалавечай натуры, бясконцасць перспектывы руху. Адмаўляючы вузкія схемы сацыяль-

Мікола МЯТЛІЦКІ



*І. Мележ, А. Вярцінскі, 1968 г.*

## Апошні прылёт

*Аж здрыганулася ўсцяж на балоце*
*Ніцыя лозы і чэзлыя пні.*
*Мележ у Глінішча на верталёце*
*Гулка спусціўся з нябёс вышыні.*

*Далеч адляскала пружыстым рэхам,*
*Вінт знерухомеў, аціх верталёт.*
*— З неба зваліўся! —*
*кажа са смехам*
*Мележ цікаўным: — Ці прымеце вот?!*

*Хтось яго позіркам здзіўлена змерыў,*
*Хтосьці сардэчна рукаецца з ім.*
*Крочыць услед апазнаны Машэраў,*
*Сыпле Шамякін жартамі ўсім.*

*Уміг стол накрыты — шчыльны сябрыны*
*Села прыветна за чаркай сяло.*
*Дорачы пахкія гронкі язміну,*
*Позна гасцей дарагіх праvяло.*

*Жнівень падступіць гарачы, і слёзы*
*Вёска абраніць ад весткі бяды,*
*Помнячы тое, што сын у нябёсы*
*Як у бяссмерце*
*Падаўся тады.*

най тыпалогіі, жорстка дэтэрмінаваную сетку прычынна-выніковых заканамернасцей гістарычнага існавання, празаік напісаў кнігу, у якой "цудоўнае жыло ў звычайным, трагізм — у звычайным, вялікае — у звычайным". Упершыню пасля Купалы, Коласа, Гарэцкага і Чорнага ён на поўны голас загаварыў пра глыбіннае, лёсаноснае веданне сусвету, уласцівае беларусам як этнасу, якое вызначае іх устаноўкі, настроі, лад пачуццяў, характар думак, спецыфіку рэагавання на падзеі, сістэму каштоўнасцей і з'яўляецца асновай менталітэту.

У хроніцы ўвесь час адчуваецца палеміка аўтара з многімі імянітымі папярэднікамі і сучаснікамі, якую ён вёў, не зважаючы на асобы і пасады. Мележ, па сутнасці, аспрэчвае і сённяшніх верхагляднікаў, якія, падобна, зусім не чыталі беларускую класіку і маюць вельмі прыблізнае ўяўленне пра народ, звыкла бачачы ў ім усяго толькі электарат, захапляючыся сваімі часовымі поспехамі ў люмпен-пралетарыяту. Няўвага да асаблівасцей менталітэту, глыбока выяўленых мастацкай літаратурай, жорстка помсціць тым, хто спрабуе будаваць прагнозы на будучыню і прадказваць паводзіны грамады ў момант гістарычна адказнага, экзістэнцыяльна вызначальнага выбару.

Героі Мележа — "простыя людзі звычайнай палескай вёскі" — усе разам і кожны паасобку ўдзельнічаюць у вялікай містэрыі жыцця, рухаюць "сюжэт" гісторыі наперад альбо, наадварот, усяляк тармозяць развіццё падзей. У сукупнасці гэта — "бязмежна багатае людское мора, імя якому — народ". Так, той самы народ, пра які Максім Гарэцкі ў апошніх сваіх запісах-абразках паблажліва-ўсмешліва казаў: "балацяне". Агульнае ўяўленне аб палешуках, паводле слоў Мележа, выяўлялася ў кплівых азначэннях: "ціхія, дзікія, у палоне забабонаў". Але сярод іх, акрамя сапраўды ціхіх і дзікіх, ёсць і выдатныя майстры, "балотныя" мудрацы, прарокі, цудоўныя лекары, таленавітыя казачнікі, народныя песняры-лірнікі. Палешукі (адзін з найбольш экзатычных варыянтаў беларусаў), на думку Мележа, вельмі гордыя людзі, у многіх "век жыло перакананне, што яны вышэй за іншых, што ў іх і "законы" і парадкі лепшыя, і яны самі — разумнейшыя". І як працяг гэтай высновы: "Дзе-дзе, а ў іх старане дык аж лішне гэтага непахіснага перакanання ў сваёй дасканаласці. Дзе-дзе, а тут лішне ўжо любілі іншыя пахваліцца, пакрасавацца, паказаць сваю хітрасць, свой розум". Вось і скажыце пасля гэтага, што вы ведаеце беларуса-палешука лепш, чым яго ведаў класік!

Пясняр "галоўнага балота Еўропы" верыў у народатворчае прызначэнне мастацкай літаратуры, у магчымасці мэтанакіраванага фармавання ментальнасці нацыі з дапамогай вобразнага слова, адзіна магчымага і маральна апраўданага. Інакш наўрад ці аддаў бы ён дзесяцігоддзі катаржнай працы над лістом паперы. Не толькі стэрэатыпы і архетыпы, калектыўнае неўсвядомленае, звышасабовыя ўяўленні, патрыярхальная нерухомасць амаль першабытнага існавання ("як і сто тысяч год таму", "як вялося адвеку") цікавілі Мележа, але і тое, "як няпроста, як нялёгка, у змаганні і пакутах" нараджалася якасна новае стаўленне людской біямасы да сваёй гістарычнай місіі і свайго боскага прызначэння.

Вялікі Час, у якім Мележ бачыць сваіх любімых герояў, свята верачы ў тое, што яны пераживуць свайго стваральніка, дзе старое памірае і не перастае нараджацца маладое, а свет паўстае вечна новым, — не плён адцягненага ўяўлення пісьменніка. Ён сам у ім жыў і жыве, як жыве і народ, які ў асобе свайго песняра і мысляра ўзняўся на новую, вышэйшую ступень гістарычнага развіцця. Жыццё ўжо не раз пераконвала ў тым, што даўно зразумелі класікі нацыянальнай літаратуры і што ніяк не могуць зразумець дасюль палітыкі, якія прэтэндуюць на веданне свайго электарату. Тое, што сёння нарадзілася ў фантазіі мастака слова, чуйнага да змен у народнай ментальнасці, заўтра ўвасобіцца, і ўжо ўвасабляецца, у штодзённым побыце. Эстэтыка, як сцвярджаў Фрыдрых Ніцшэ, — гэта этыка будучыні.

Іван Мележ з яго аўтарытэтам выдатнага знаўцы свайго народа, майстра мастацкага слова быў бы вельмі патрэбны сёння шматпакутнай Беларусі. Як і іншыя таленавітыя "шасцідзесятнікі", кагорта байцоў са злом у аблічы таталітарызму. Іван Мележ, Уладзімір Караткевіч, Аляксей Карпюк, Алесь Адамовіч, Уладзімір Калеснік, Пімен Панчанка, Максім Танк, Мікола Ермаловіч — надта вялікія страты, каб не адчуць адсутнасці гэтых "каранніхоў" навейшай беларускай гісторыі. Сам Мележ вострa адчуваў няўмольную хаду часу і свой адчай выявіў у словах, якія да сённяшняга дня выклікаюць хваляванне: "Адламала галіну, на якой поўна зялёных яблык. Я як гэта галіна. Поўна ва мне задум, якія прападуць са мноюˮ.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
*Фота Ул. КРУКА.*

# Некалькі згадак пра Івана Мележа

Сярод найбольшых шанцаванняў у сваім жыцці лічу тое, што ў мяне складваліся прыязныя адносіны з многімі добрымі беларускімі пісьменнікамі, у прыватнасці, з Іванам Мележам. Праўда, гэтага выдатнага майстра мастацкай прозы і я, і многія мае равеснікі сталі вылучаць не адразу. Помніцца, як у час публічных мележаўскіх выступленняў у Саюзе пісьменнікаў з задніх радоў раздаваліся насмешлівыя галасы: "Мележ, што ты там мелеш?" Сам я так ніколі не крычаў, але і не абураўся гэткімі воклічамі. Тлумачылася гэта тым, што па-сапраўднаму стаў чытаць усё, што пісаў Іван Мележ, толькі пасля з'яўлення "Людзей на балоце". Менавіта гэты раман з усёй неаспрэчнасцю паказаў неардынарнасць мележаўскага таленту, сцвердзіў, што ў нас нарадзіўся яшчэ адзін пісьменнік, творам якога суджана вялікае жыццё.

"Людзі на балоце" былі завершаны ў 1960 годзе, у 1961-м раман публікаваўся ў часопісе "Полымя", а ў 1962-м выйшаў асобным выданнем і хутка выклікаў самыя прыязныя водгукі. Першым, яшчэ на часопісную публікацыю, усхваляваным словам адгукнуўся Янка Брыль. Потым пра "Людзей на балоце" пісалі ў мінскіх і маскоўскіх выданнях А. Васілевіч і І. Шамякін, У. Калеснік і Р. Бярозкін, Ф. Куляшоў і Р. Шкраба. У. Юрэвіч і В. Аскоцкі, А. Лойка і Я. Казека.

Янка Казека змясціў у "Полымі" (1962, N 2) ёмісты манаграфічны артыкул з аналізам усёй творчасці Івана Мележа, вылучыўшы буйным планам раман "Людзі на балоце", які разглядаўся як прынцыпова важная з'ява ў развіцці беларускай прозы. Свой артыкул ён потым уключыў у кнігу "Натхненне і майстэрства" (1963), у якой мележаўская творчасць аналізавалася побач з творчасцю Коласа і Чорнага. Я рэцэнзаваў гэтую кнігу ў часопісе "Полымя" ў тым жа 1963 годзе і такім чынам атрымаў магчымасць і ад сябе выказацца пра "Людзей на балоце" як пра сапраўды выдатны раман.

Іван Мележ вельмі ўважліва чытаў усё, што пісалася пра беларускую літаратуру і асабліва пра ягоныя творы. Ён адразу зрэагаваў і на маю пахвалу, з удзячнасцю гаварыў пра яе пры сустрэчы і з тых пор залічыў мяне ў кола не толькі прыхільнікаў, але і сяброў.

У 1964 годзе на старонках "ЛіМа" распачалася дыскусія пра жанр рамана. З гэтай нагоды я апублікаваў палемічны артыкул "Стылёвая шматграннасць і крытычная спрошчанасць", у якім побач з абаронай раманаў "Птушкі і гнёзды" Я. Брыля і "Нельга забыць" У. Караткевіча сказаў і пра "вялікі і заслужаны поспех" "Людзей на балоце". Мележ і гэта заўважыў. Потым згаданы артыкул я спрабаваў уключыць у кнігу "Шматграннасць", пашырыўшы напісанае пра Мележа ў газетнай публікацыі. Але ў выдавецтве "Беларусь", дзе з вялікімі пакутамі і дэтэктыўнымі прыгодамі выходзіла тая кніга, катэгарычна адмовіліся яго друкаваць, хоць я тры ці чатыры разы перапісваў першапачатковы тэкст. Але ва ўсіх варыянтах захоўваў належную ацэнку выдатных беларускіх раманаў і не пагаджаўся залічаць да іх у лепшым выпадку пасрэдныя творы такіх аўтараў, як А. Савіцкі, Т. Хадкевіч, У. Карпаў, І. Гурскі і іншыя.

Івану Мележу я сказаў пра сваю няўдачу, бо было сорамна, што ў кнізе пра шматграннасць беларускай літаратуры няма гаворкі пра аднаго з самых выдатных яе майстроў. Аглядваючыся на тую ўжо даўнюю гісторыю, цяпер і сам дзіўлюся са сваёй тагачаснай наіўнасці: артыкул "Стылёвая шматграннасць і крытычная спрошчанасць" ніяк не мог прайсці ўжо з-за таго, што ў ім пахвальна гаварылася пра Караткевічаў раман "Нельга забыць", гатовы набор якога ў тым жа выдавецтве проста рассыпалі, абвінавaціўшы аўтара, як ён сам казаў, "у абстрактным гуманізме і іншых смяротных грахах".

Ды тут я забег трохі наперад. Рэдагаванне зборніка "Шматграннасць" адбывалася ў 1969 годзе, а ў 1964—1965 гадах у "Полымі" быў надрукаваны другі раман з "Палескай хронікі", які атрымаў канчатковую назву "Подых навальніцы". К таму часу з Інстытута літаратуры імя Я. Купалы я перайшоў на працу ў БДУ і там са студэнтамі філфака наладзіў абмеркаванне гэтага рамана па яго часопіснай публікацыі. Вядома, з запрашэннем Івана Мележа, які пра свае творы сам мог гаварыць бясконца і вельмі ўважліва выслухоўваў усё, што гаварылі пра іх іншыя.

Я тады зрабіў працяглы даклад пра "Подых навальніцы", падкрэсліўшы наватарскі характар твора і яго навізну ў параўнанні не толькі з ранейшымі беларускімі раманамі, але і з "Людзьмі на балоце". Мележ быў усцешаны і прыязнымі студэнцкімі выступленнямі, і маім дакладам, адкрыта казаў пра гэта. Ён ахвотна адказваў на ўсе пытанні, вельмі цікава расказваў пра тое, як выношвалася і пісалася "Палеская хроніка". А калі твор выйшаў асобным выданнем (1966), падарыў мне яго з такім аўтографам: "Дарагому Дзмітрыю Бугаёву — шчыраму і гарачаму мінчаніну, ад сэрца. Іван Мележ. 31.3.66 г. Мінск".


*А. Асіпенка і І. Мележ у дзень 50-годдзя, 1971 г.*


*І. Мележ, Я. Брыль, М. Калачынскі, 1972 г.*

Прыязны подпіс зрабіў ён і на экземпляры першага тома свайго шасцітомнага Збору твораў: "Дзмітрыю Бугаёву з вялікай павагай і самымі добрымі пажаданнямі. Ад сэрца — Іван Мележ. 6.IX.69 г. Мінск".

Атрымаў я ад яго і кнігу "Жыццёвыя клопаты" з подпісам: "Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву — з удзячнасцю за глыбокі артыкул, за добрую ўвагу. Іван Мележ. 23.10.75 г. Мінск".

Зробленыя выразным каліграфічным почыркам Мележавы дарчыя надпісы моцна цешылі, хоць у першым аўтографе, праўду кажучы, трохі здзівіла тое, што Мележ назваў мяне шчырым мінчанінам. Здзівіла таму, што трывалых гарадскіх каранёў я не меў, мінчанінам быў наваспечаным — толькі ў 1959 годзе неяк зачапіўся за сталіцу. Словам, мне здавалася, што больш падстаў было казаць пра шчырага беларуса, а не мінчаніна. Але шчырымі беларусамі звычайна называлі сябе тыя з нашых суайчыннікаў, якія па розных прычынах апынуліся за межамі Бацькаўшчыны. Мусіць, гэткай сугучнасці і паасцярогся Іван Паўлавіч (тады мы ўсе шмат чаго асцерагаліся!).

За свае раманы ён хацеў атрымаць вышэйшую літаратурную ўзнагароду краіны і з цягам часу сапраўды атрымаў яе (цалкам заслужана). Адбылося гэта ў 1972 годзе, калі мележаўская дылогія пра Палессе была адзначана Ленінскай прэміяй. У Беларусі гэта была яшчэ толькі другая такая ўзнагарода па літаратуры (першую, як вядома, атрымаў Броўка). І Мележ ёю па-сапраўднаму ганарыўся. Перад прысуджэннем прэміі рабіліся розныя захады, каб розгалас пра вылучаныя на яе атрыманне творы быў як мага шырэйшы. Свае тры грошыкі давялося прыткнуць і мне. У самы пярэдадзень вырашальнага галасавання ў Маскве я па беларускім рэспубліканскім радыё зрабіў вялікае выступленне пра раманы "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы". Было яно, як таго і вымагала нагода, цалкам хвалебным і Мележу спадабалася. Пасля прысуджэння прэміі я апублікаваў той тэкст у "Весніку БДУ" (1972, N 2) пад назвай "Вяршыня сучаснай прозы".

Але па-сапраўднаму вывучаць усё, што напісаў Мележ, стаў толькі ў 1974 годзе. Тады ў "Полымі" мне заказалі артыкул пра творчасць Івана Мележа. Я з вялікай ахвотаю ўзяўся за працу і так захапіўся, што сталі зрывацца ўсе магчымыя тэрміны здачы напісанага ў часопіс. Палымянцы былі моцна азадачаны, бо канца працы не было відаць, але ўрэшце пагадзіліся на тым, што пра Мележа можна даць не адзін артыкул, а некалькі. І сталі друкаваць мой тэкст часткамі па меры іх гатоўнасці. У канчатковым выніку пры жыцці Івана Паўлавіча я на працягу 1975—1976 гадоў апублікаваў у "Полымі" тры вялікія артыкулы агульным памерам каля 10 друкаваных аркушаў. Разгляд мележаўскай творчасці ў іх канчаўся аналізам раманаў "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы". Натуральна, што гэтыя раманы падаваліся ў мяне як вяршыннае дасягненне пісьменніка і ўсёй тагачаснай савецкай літаратуры, дасягненне не выпадковае, а цалкам заканамернае, падрыхтаванае ўсёй логікай мастакоўскага развіцця Івана Мележа. Пры гэтым ранейшыя творы я не імкнуўся абавязкова хваліць, нямала напісаў пра іх недахопы, але адзначаў і тое, што ў тым ці іншым плане нeяк прадказвала, падрыхтоўвала "Палескую хроніку". Пасля яе з'яўлення гэта бачылася мне ўжо дастаткова выразна.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## "Мілей за ўсё..."



На Капыльшчыне вялікая ўвага надаецца краязнаўству, прапагандзе лепшых набыткаў, якія з гадамі не страчваюць свайго першаступеннага значэння. Не застаецца ўбаку ад гэтай справы і Капыльская цэнтральная раённая бібліятэка імя Анатоля Астрэйкі. Выхоўваць любоў да гістарычнай і культурнай спадчыны — адзін з галоўных кірункаў яе работы. Але цікавыя мерапрыемствы праходзяць не толькі ў самой бібліятэцы. Дырэктар Капыльскай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Т. Серая імкнецца да таго, каб і ў іншых установах культуры раёна не забываліся пра гэты аспект работы. А каб яна вялася з карысцю, прапаноўваюць розныя метадычныя распрацоўкі. У шэрагу іх і зборнік краязнаўчых сцэнарыяў, які выйшаў пад эгідай аддзела адукацыі Капыльскага райвыканкама і Капыльскай раённай бібліятэкі імя А. Астрэйкі "Мілей за ўсё мясціны родныя..."

Пад адной вокладкай прадстаўлена шэсць матэрыялаў, а адкрываецца зборнік сцэнарыем "Капыль паміж мінулым і будучым", які, дарэчы, як уся кніжка, а выйшла яна ў самім Капылі, прысвечаны 725-годдзю з часу першых успамінаў у летапісах гэтага аднаго з самых старажытных беларускіх гарадоў. Сцэнарый падрыхтавала сама Т. Серая. Важкую нагрузку нясуць вершы М. Хведаровіча, С. Пятровіча, А. Гурло, Ц. Гартнага, якія, як вядома, нарадзіліся ў тамашніх мясцінах, а таксама верш "Капылю", напісаны падчас наведвання гэтага прыгожага горада У. Паўлавым:

*— Дзень добры! — страчаеш смехам*
*І вішні мне сыплеш з верхам.*
*Ды вер жа, я не прыехаў*
*падлічваць тваіх паверхаў —*
*І не вярэдзіць раны, а спасцігаць навуку,*
*Капыль мой амаль драўляны,*
*З сівым, як і сам ты, брукам.*
*Няхай ты прастор не будзіш*
*Ні кранамі, ні капрамі,*
*Але ты вядомы людзям*
*Чэснасцю ды сынамі*
*І песняй сваёй мне блізкі,*
*І моваю роднай з веку.*
*Паклон жа табе мой нізкі —*
*Як добраму чалавеку.*

А які ён, кажучы словамі паэта "добры чалавек", можна даведацца з тых фактаў, што прыводзяцца ў сцэнарыі. Па-за ўвагай аўтара не засталіся ўбаку ні падзеі сівой даўніны, ні гады ўсенароднага змагання з фашызмам, ні мірная праца па аднаўленні разбуранай ворагам гаспадаркі, ні сённяшнія працоўныя будні.

Змястоўным атрымаўся і сцэнарый "Па запаветных мясцінах нашай Капыльшчыны", аўтарамі якога з'яўляюцца загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі Капыльскай раённай бібліятэкі І. Пятровіч і намеснік дырэктара ЦБС В. Камінская. Падзагаловак сцэнарыя "гульня-падарожжа" сведчыць аб тым, што матэрыял падабраны і пададзены так, каб выклікаць як мага большую цікавасць у тых, хто далучыцца да яго. А на Капыльшчыне нямала куткоў, пра якія не лішне ведаць. У тым ліку — і старадаўнія паркі ў вёсках Бабоўня, Цімкавічы, Какорычы, Сінячова. Яшчэ бліжэй знаёмяць з горадам і раёнам сцэнарыі "Мой родны кут" і "Ці ведаеш ты свой край Капыльскі" — аўтар галоўны бібліятэкар чытальнай залы раённай бібліятэкі Т. Астрэйка. Другі з гэтых матэрыялаў уяўляе сабой віктарыну, адказаўшы на пытанні якой можна высветліць, наколькі глыбока ведаеш свой родны кут. А сцэнарый "Калі песня душу грэе..." дазваляе перагарнуць старонкі творчасці паэта-песенніка А. Русака. Ёсць у зборніку і сцэнарый "Памяць" (аўтар Т. Серая) — гаворка пра тых, хто загінуў у Афганістане.

Думаецца, вопыт капылян трэба пераняць і ў іншых раёнах, бо падобныя зборнікі паспрыяюць таму, што, лепш ведаючы сваю "малую радзіму", чалавек па-сапраўднаму палюбіць і ўсю Беларусь.

**Міхась ГЕНЬКА**

ПАЭЗІЯ

Эдуард АКУЛІН



# Малітва слоў...

## *Што ёсць Паэзія?*

*Што ёсць Паэзія? — Жыццё,*
*ці думак прах на тле паперным?*
*Гасподні Голас, Адкрыццё,*
*ці д'яблаў смутак апраметны?*

*Што ёсць Паэзія? — Ныццё*
*душы на паперці жыццёвай?*
*Ці дабіблейскае быццё —*
*перадусімнасць сутвы Слова?*

*Што ёсць Паэзія? — Зліццё*
*Красы адвечнай і Паэта?*
*Ці ваўкалацкі лёс — выццё*
*над перакуленым Сусветам?*

*Што ёсць Паэзія? Што ёсць?*

●

*За справамі, хатнім клопатам*
*спрабуем схаваць душу*
*ад неба, і Бог не ў попыце, —*
*як летняй парой кажух.*

*Збіраем, будуем, рупімся —*
*спяшаем кудысь паспець.*
*А чым за грахі адкупімся? —*
*з сабой не захопіш медзь...*

*Люстэрка па даўнім звычаі*
*схавае ад воч радня...*
*А што, як сябе бяскрылаю*
*убачыць у ім душа?..*

## *Па Нёмане на плыце*

*Чэрвень. Чэзлае сонца.*
*Цень ад вясла ў вадзе...*
*Шлях — як жыццё бясконцы*
*па Нёмане на плыце.*

*Ад звіслага вуса Усы —*
*паўз прыстаньку, дзе калісь*
*дзядзька Якуб беларусаў*
*вучыў, як патрэбна жыць...*

*— Пад бел-чырван-белым сцягам*
*Куды плывяце, хлапцы?*
*— З грэкаў плывем у варагі...*
*Напраўду? — Ай, малайцы!*

## *Аве, Марыя*

Памяці МАЦІ

*Час прыйшоў за грахі вініцца...*
*Памяць паліць гады на тло.*
*Ды часцей стала мама сніцца —*
*не сама, а яе Святло.*

*Мне на гэта Святло маліцца —*
*покуль будзе мой шлях відзён...*
*— Мама, імя тваё свіціцца —*
*хай ад сёння — да скону дзён.*

*Гэта ж ты мяне нарадзіла.*
*Што змагла — то ў жыцці дала...*
*Ты і ёсць для мяне — Радзіма.*
*Не прывыкну казаць — была.*

## *Радно*

*З прадоння роду, з Сусвету дна —*
*прадзецца нітка — выток Радна.*

*З захмар'я праснiц на ток гадоў*
*сам Час вывозіў вазы снапоў.*

*Туманам белым і срэбрам рос*
*сцяліў над грэбляй льняны пакос.*

*Ад кросных промняў —*
*лёг ценем страх...*
*Каму ён Лёсам — радзінны шлях?*

*У німбе зрэбным крывіцкі Бог*
*на шлях той выйшаў з чужых дарог.*

*Ён з намі — поплеч,*
*мы з Ім — адно:*
*Радзіма, роднасць, радня, Радно!*

## *Тут Зніч уваскрос...*

Галіне ДЗЯГІЛЕВАЙ

*У лёхах касцёла Сымона й Алены,*
*якім любаваўся калісьці Максім,*
*драўляны алтар — паэтычную сцэну*
*ахутаў біблейскага вогнішча дым.*

*У дыме тым —*
*яблык, надкушаны Евай,*
*і рэха літанняў, і шоргат крыла...*
*І песні, ці лепей сказаць —*
*песняспевы —*
*гучаць, як найвышняму Пану хвала.*

*Тут светла ад свечак —*
*ды не з жырандоляў.*
*Тут светла ад свечак,*
*што ў душах гараць...*
*Тут Зніч уваскрос —*
*нашай марай аб Волі,*
*якой ні разбіць, ні спыніць, ні стрымаць!*

●

*Ты камусьці патрэбны*
*на бацькоўскай зямлі,*
*дзе біблейскія вербы*
*зоры ў кроны ўплялі.*

*Дзе ў нябёсах высокіх —*
*жураўлінавы шлях.*
*Дзе начуюць анёлы*
*на царкоўных крыжах.*

*Ты камусьці патрэбны.*
*Ты патрэбны камусь...*
*Покуль моліцца небу*
*за цябе Беларусь.*

## *Трыпціх Слова*

I

*Слова — мой шлях да Бога.*
*Слова — мая дарога.*
*Слова — мой крыж жыццёвы.*
*Бог уваскрэс у Слове.*

*Слова і ёсць мне Богам —*
*шляхам, крыжом, дарогай...*

II

*Слёзы Хрыстовы — словы.*
*Словы — Хрыстова кроў.*
*Цвікамі ў далонях словы —*
*Бог — гэта Любоў...*

III

*Насенне Слова*
*ў раллю душы*
*Бог шчыра сее —*
*не саграшы...*
*І ў думным жыцце*
*у рэшце рэшт*
*Бог дасць — узыдзе*
*валошка-верш.*

## *Рэквіем парэзанаму "Радну"* *

*Хоць не калхідскае руно —*
*сатканае з суворых нітак —*
*ад прадзедаў спакон — Радно —*
*наш скарб духоўны*
*і нажытак.*

*І гэты скарб на гвалт, на здзек*
*пусцілі кніжныя вандалы.*
*О як пажадна рэзаў-сек*
*драпежны нож ад Волі мары...*

*Не ў кінавары, а ў крыві*
*лязо сталёвае кіпела...*
*На часткі—поўную Любві*
*душу, што ў вершы заяцела.*

---

*Назва паэтычнага зборніка Э. Акуліна, наклад якога паводле афіцыйнага акта выдавецтва "ПаліБіг" ад 03.03.2000 г. быў цалкам "**измельчен на макулатуру**".

*На прах паперны ў небыццё —*
*Каханне, Гонар, дух Максіма...*
*Дай Бог вам — доўгае жыццё,*
*сляпыя служкі Гільяціны!..*

●

*Лебедзь — у сінім небе.*
*Гэта прыйшла зіма.*
*Белай завеяй вецер*
*пух разадзьмуў з крыла...*

*І над цнатлівай Пціччу,*
*як багародны грэх,*
*лебедзь — тваім аблічам*
*кружыць біблейскі снег.*

## *Клямка*

*Клямка на брамцы дзяцінства*
*майго —*
*так незаўважная плямка.*
*Як на марозе сарваная ў кроў*
*скура на вуснах ранка...*

*Клямка — язык паказны дзвярэй.*
*Клямка — далонь падворка.*
*Звычніца клянчыць і чым старэй —*
*тым адмысловей горка.*

*Клямцы паклёпнічаць не з рукі.*
*Клямка — сама з паклёпу...*
*Колькі разоў да яе замкі*
*слалі сватоў без толку.*

*Клямачка ў сенцы і пад павець.*
*Клямка ў чужое шчасце...*
*Мара мужчыны — хутчэй займець*
*клямку жаночай жарсці...*

●

*Марна анёл-ахоўнік*
*мне надарваў рукаў —*
*міма царквы праходжу —*
*часу няма на Храм.*

*А у вязніцы-целе*
*стала душа старэць.*
*Б'ецца, як рыба ў пелі,*
*аб ледзяную цвердзь.*

*Ды за бязвер'я хмарай*
*сонца ёй не відно.*
*Позна аб крылах марыць —*
*цягнуць грахі на дно...*

●

*Валютчыца-восень медзь*
*мяняе на "зелень" лета...*
*Баюся цябе сустрэць —*
*ману між радкоў Завета.*

*Зноў схлусіць душа сабе,*
*што чыстая перад здрадай.*
*Баюся сустрэць цябе —*
*якою сябе абкрадваў...*

*Не скажа ні так, ні — не*
*пагляд, пад якім згараю.*
*Баюся сустрэць цябе —*
*свой грэх на парозе раю...*

●

*Твая душа — як матылёк, —*
*трымціць у сне перадсвітальным.*
*Баюся дыхаць — каб пылок*
*не здзьмуць з павекаў —*
*крыл астральных...*

●

*На парозе тысячагоддзяў,*
*не скароная ліхаўне,*
*у Храме — сваім Народзе*
*як спакон — Беларусь жыве!*

## *Цар-жорай*

ПАВОДЛЕ ЯПОНСКАГА

*Між смерцю й жыццём*
*выбіраць — не блукаць...*
*Як жыць у суладдзі з Лёсам.*
*А вось, калі смерць за жыццё*
*выбіраць —*
*Як выплакаць вочы ў слёзы.*
*Як выплакаць сэрца...*
*Як выплакаць кроў...*
*Ці песню ў сляпым тумане.*
*Як выплакаць вецер,*
*душу і Любоў —*
*Самога сябе дазвання.*

ПРОЗА

Валянцін БЛАКІТ

# ДЗЕ Ж ТЫ, МОЙ СУЛІКО...



СТАРОНКІ З АПОВЕСЦІ

***Пасля доўгага перапынку, нарэшце, удалося ажыццявіць адну з задумак — гэтай восенню напісалася аповесць “Вяртанне на Саарэмаа”. Прапаную чытачам "ЛіМа" старонкі з аповесці. Цалкам яе плануе надрукаваць часопіс “Полымя” ў першай палове гэтага года.***

**Аўтар**

На заставе Гаціцідзе быў і экзатычным экспанатам, і адначасова — ізгоем. Экзатычным было ўжо тое, што ў славянскім асяроддзі ўпершыню з'явіўся грузін, нават не зусім грузін, а аджарац, пра існаванне якіх і не чулі. Экзатычным было і ягонае імя — Суліко. Пераканаць, што яно зусім не жаночае, пасля славутага кінафільма з прыгажуняй па імені Суліко і папулярнай песенькай са словамі “Где же ты, моя Сулико...”, якую па некалькі разоў на дзень перадавалі па радыё, Гаціцідзе нікога не мог, здаўся і прасіў зваць яго Лёшам. Але самае неверагоднае — ён быў прававерным магаметанінам і не еў свініну. Што ні рабілі, каб пазбавіць яго ад шкодных рэлігійных забабонаў, — марная справа. І папулярна тлумачылі, што ніякага Бога, ніякага Алаха няма, і падманвалі, выдаючы свініну за гавяду, — ні ўгаварыць, ні падмануць яго не ўдавалася. Што Бога няма — яшчэ быў гатовы згадзіцца, а каб не было Алаха — гэта было вышэй ад ягонага разумення.

Не сказаць, каб да Гаціцідзе ставіліся надта кепска, тым больш варожа. Проста ён вывальваўся са звыклага ўяўлення, быў не такі, як усе, а хацелася — каб быў, як усе. І ўгаворвалі, і падманвалі, і губы хацелі намазаць скваркай ці не з самым добрым намерам — каб не быў вечна галодны, худы як шкілет. Мець у нарадзе напарніка, які ледзьве цягне ногі, радасць малая, як бы ты да яго ні ставіўся. Асабліва зімою, калі без лыжаў — як без рук. Гаціцідзе пачуваў сябе на іх, як карова на лёдзе. Ускідваў на плечы і пёр пехам па лыжні, высалапіўшы язык. Да ўсяго, так кепска, з такім акцэнтам гаварыў, так перакручваў рускія словы, што цяжка было зразумець ягоную гаворку. Таму не мог ні з кім сысціся, адчуваў сябе самотным, чужым у руска-ўкраінскім асяроддзі.

Чаму выбраў Гаціцідзе, а не некага іншага, нармальнага? Былі дзве прычыны. Першая — ідэя-фікс стварыць інтэрнацыянальны калектыў: сам — беларус, Шпакоўскі — украінец, Собалеў — рускі, а к зіме з “вучэбкі” мо падкінуць малдаваніна, армяніна, латыша — і поўны інтэрнацыянал. Ідэя вельмі спадабалася нампаліту. І другая, галоўная: было па-чалавечы шкада, хацелася дапамагчы гэтаму худому чарняваму хлопцу з вачыма абложанага звера з-за свайго рускага маўлення, крыўднай мянушкі “чурка”, вечнай асцярогі не падмануцца ды не саграшыць перад Алахам, папрокаў “сачок”, “сімулянт”. На пражэктары яму будзе лепш: і калектыў маленькі — усе і ўсё на віду, і на лыжы станавіцца не трэба, і фізічныя нагрузкі — не тыя.

— Ты што, здурэў?! — аж зрэнкі палезлі на лоб у капітана, калі сказаў пра свой выбар. — Гэтага сачка?! Не-е! Несур'ёзна...

— Таварыш капітан, пад маю персанальную адказнасць. Пагледзіце, які салдат будзе! Яму трэба змяніць абстаноўку...

— Ты хоць разумееш, якую завалу хочаш узяць?! Упэўненасць — добра, а самаўпэўненасць?.. Твая самаўпэўненасць, Бакульчык, кепска скончыцца, — паўшчуваў капітан. — Іх летась дваццаць чалавек нейкі дурань прывёз у атрад. Засталося двое: наш на заставе і адзін у каменданцкай роце. Пакамісоўвалі альбо пасплаўлялі ў будбат. Розуму не прыкладу, як ад свайго пазбавіцца. Толькі зачапіўся, каб адправіць у будбат, а тут на табе: новы Макаранка аб'явіўся! Не-е! Давай іншую кандыдатуру, а то сам прызначу.

Ледзьве “ўламалі” ўдвух з нампалітам, хоць капітан застаўся пры сваёй думцы, вельмі скептычна ставіўся да іхняга інтэрнацыяналісцкага эксперыменту. Прыняў саламонава рашэнне:

— Ладна, забірай. А я пагляджу, што вы запеяце з нампалітам праз два тыдні. Рэва хай пабудзе, пакуль скончыцца пшыкам ваш эксперымент. Два тыдні — і ўсё! Сам прыеду і яго, адваката, — кіўнуў на старлея, — вазьму, каб тыцнуць носам...

На пражэктары Гаціцідзе ажыў на вачах, паказваў такі спрыт і кемнасць — дзіву даваліся, нарадавацца не маглі. Мог ахвяраваць сном, пэўна, ахвяраваў бы і сабою, абы зрабіць як мага лепш, заслужыць пахвалу. Усе спяць, а ён бяжыць на пляцоўку, трэніруецца вадзіць “прамень” па азімуту, пад вугламі, каб замяніць першага нумара. Люстэрка-рэфлектар, за які ён адказваў як другі нумар, чысціў штодня, хоць дастаткова было раз у тыдзень. Абавязкі трэцяга нумара засвоіў з першага разу — з машынай меў справу да арміі. Адно, што рабіў без ахвоты, — кашаваў на кухні: даводзілася мець справу са свінінай, якая выклікала ў яго агіду. Пазначыў меткамі сваю міску, лыжку, кубак і пільна сачыў, каб ніхто не падмяніў ці пакарыстаўся. Святам душы і страўніка было, калі зрэдку замест свініны выдавалі на заставе ялавічыну. Аддавалі яму ледзь не ўсю, паколькі штодня яго аб'ядаюць. Ён аднекваўся, але быў шчыра ўдзячны.

Да Гаціцідзевых дзівосаў прывыклі не адразу. Яны, на самай справе, не ўкладваліся ні ў якія разумныя меркі. Спачатку, асабліва Супруноў, кінуліся тлумачыць.

— А каб вам дал жрац лошад? — неяк вінавата запытаў Гаціцідзе, і ягонае пытанне было такім нечаканым, што ўсе збянтэжыліся, уявіўшы... І, мабыць, упершыню дайшло, што ёсць розныя людзі, з рознымі звычаямі, прымальнымі для адных і зусім непрымальнымі для другіх.

А ўсё ж было смешнавата назіраць, як старанна, з пяском выдрайвае Гаціцідзе каструлю, каб пачаць варыць сабе нішчымны суп ці кашу на маргарыне. Трэба папрасіць у старшыны запасную каструльку, і падзівіўся, чаму недапялі да гэтага на заставе, калі Гаціцідзе быў там.

Аднак новенькая каструлька, якую разам з прадуктамі прынеслі з заставы, чамусьці выклікала ў Лёшы не радасць, а лёгкае засмучэнне.

Пры кожнай гаворцы па тэлефоне капітан з іроніяй цікавіўся: ну, як там твой кацо? І не даваў веры, што ўсё нармальна. А праз два тыдні, як і абяцаў, прыехаў разам з нампалітам, учыніў Гаціцідзе прыдзірлівы экзамен. Падзівіўся і загадаў:

— Хуценька збірайся, Рэва, паедзем даслужваць на заставе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пасланы да паштаркі па пісьмы і газеты Лёша спаткаў яе на вуліцы. Глянуў — і стаў на месцы, як укапаны: перад ім была незнаёмая прыгажуня з доўгімі, неймаверна белымі валасамі і сінімі, як ягонае Чорнае мора, вачамі. Яна таксама анямела ад позірку каштанавых вачэй смуглага джыгіта з вусікамі, з чорнымі, як смоль, кароткімі кучаравымі валасамі. Белае на чорнае ці чорнае на белае дало такі ўсплеск, выбух пачуццяў, што тут жа пазнаёміліся, перайшлі на “ты”, у адно імгненне Хельда папрасіла праводзіць да цётчынай хаты, куды прыехала адпачыць на тыдзень. А як правёў, прапанавала зайсці “паганяць чаі”, аднак дысцыплінаваны Лёша адмовіўся: камандзір чакае, і подбегам паімчаў назад, каб не спазніцца.

— Чаго ж ужо так спяшаўся, — сказаў з усмешкай. — Пагаманілі б, спатканне прызначыў...

— Дысцыплын, камандыр. А дэвачка-а-а — вах, вах! Мандарын, пэрсык! Сказал, што б прыхадыл завтра пад вэчар...

— І ты што?

— Сказал прыду, кагда камандыр пустыт. Дэ-э-вачка-а — о-о! — не мог суняцца ад хвалявання. — Пэрсык, камандыр!

Што заставалася? Не мог адмовіць Лёшу. Хай сходзіць, тым больш, гэтая Хельда не мясцовая, як прыехала, так і паедзе.

— Ладна, Лёша, сходзіш, калі такая дэвачка. Толькі трымай марку, не пасаром аджарскі народ! І ў дваццаць тры — каб быў, як штык, на месцы.

— Не падвяду, камандыр, — на поўным сур'ёзе адказаў Лёша. Как штык, буду ў дваццаць тры...

Назаўтра ўвесь дзень ён быў у прыемным узбуджэнні — усміхаўся сам сабе, праз кожную хвіліну паглядваў на гадзіннік, пад вечар пагаліўся яшчэ раз, падшыў свежы падкаўнерык. За паўгадзіны да спаткання запытаўся:

— Камандыр, а карабын брац?

Ледзь не пакаціўся ад рогату:

— Ты што, з ёй напару шпіёнаў сабраўся лавіць?

— Ныкак нэт!

Добры, наіўнаваты Лёша не разумеў жартаў, не заўважаў, калі з яго пацвельваюцца, калі гавораць усур'ёз, з-за чаго вечна трапляў у камічныя сітуацыі. На яго нельга было злавацца і ён не крыўдаваў за пацвелкі, кепікі, жарты, успрымаў усё адназначна, прамалінейна. Мо знарок, мо з-за кепскага валодання рускай мовай. Унутраны голас падказваў: з гэтай Хельдай Лёша па сваёй наіўнасці, як заўсёды, уляпаецца ў нейкую камічную сітуацыю. Канечне ж, раскажа, потым можна будзе павесяліцца. Так яно і сталася.

Вярнуўся без чвэрці дваццаць тры нейкі разгублены, азадачаны.

— Ну што, Лёша?

— Нэ панымаю, камандыр, нэ панымаю... — развёў рукамі. — сыдым, мне жарка, а он — холадна. Дражыт, ка мнэ прыжымает, холадна, гаварыт. Нэ панымаю...

— Целяпень ты, Лёша, — засмяяўся незласліва. — Не ад холаду дрыжала, а хацела, каб прыціснуў, пацалаваў...

— Как?! — напалохана натапырыўся. — Он жа свін'я кушает!

Як ні паважаў Лёшавы нацыянальныя і рэлігійныя звычкі, але было вышэй сіл не пакаціцца з рогату. Гаціцідзе, як заўсёды, не пакрыўдзіўся, але ўсю ноч, пакуль свяцілі, быў не падобны на сябе. Адчувалася, упершыню стаў перад невырашальнай дылемай: грашыць ці не грашыць? Мужна выносіў галадуху, ідэйны ўціск на выкараненне рэлігійных забабонаў, гвалт, застаючыся чыстым, як шкельца, перад сваім Алахам, а тут — забаронены плод у вобразе гэтай белавалосай, сінявокай спакусніцы...

Рашыў дапамагчы, дакладней — падштурхнуў Лёшу да забароненага плода самым каварным чынам. Пасля двухтыднёвай ялавічынай дыеты Бедрыс, нарэшце, прыцёг з заставы свіное сцягно.

— Гаціцідзе бачыў?

— Не... — таемна адказаў Бедрыс, здагадваючыся, куды хіліць. — Абрэжу сала, звару... — падміргнуў па-змоўніцку, і ўсмешка расплылася па ягоным буйным твары.

Гаціцідзе першы наліў сабе апалонікам поўную міску супу, вылавіў найбольшы кавалак мяса і пачаў уплятаць за абедзве шчакі. Калі той скончыў абсмоктваць костку, запытаў у Бедрыса:

— Ты свініну прынёс?

— Так точна, таварыш сяржант. Свініну.

Гаціцідзе насцярожыўся, ягоныя карычневыя вочкі разгублена забегалі, недаверліва ўставіліся на Бедрыса:

— Пакажы?!

Бедрыс адкрыў шкапчык, дзе трымалі мяса, прадэманстраваў астаткі кумпяка са шкураю на цыбе. Гаціцідзе ўскочыў, наляцеў на яго, як раз'ятраны певень:

— Пачаму нэ сказал, салага?!

— А ты што, ужо не разлічаеш? — вызверыўся Бедрыс, узяў за рукі і ўсадзіў на месца.

Лёша перастаў кіпяцціца, сядзеў скрушна, думаў, не дакранаючыся да кашы. Потым вінавата, жаласліва папрасіў:

— Камандыр, прыедэш у госты — нэ скажы, что свын'я жрал. Скажаш — для мэна атдэльны мыска, атдэльны ложка, атдэльны кружка...

— Ты што, Лёша? Клянуся: буду маўчаць, як рыба, — запэўніў яго і строга папярэдзіў усіх: — І вы каб нікому — ні гу-гу!

Гаціцідзе павесялеў. Астатак дня хадзіў, заглядваючы ў вочы, не асмельваючыся адпрошвацца да Хельды.

— Што ж цябе адпускаць... — развёў рукамі, калі, нарэшце, пад самы вечар папрасіўся. — Замарозіш дэвачку, у бальніцу пакладуць, а мне адказвай пасля...

— Нэ замарожу, камандыр! — упэўнена заявіў Лёша. — Я ж свын'я жрал...

Вярнуўся без спазнення, з апухлымі губамі, чырвона-сінімі засосамі на шчоках, шыі.

— Ну, як, Лёша? — ледзьве стрымліваў смех. — Не асароміўся?

— Ныкак нет! — задаволена, улагоджана адказаў ён.

Назаўтра пашкадаваў, што не спыніў гэты Лёшаў раман на першай жа старонцы. Пасля абеду на пражэктар заявілася Хельда з прыкметамі ўчарашняга бурнага вечара і, какетнічаючы з Бедрысам, запатрабавала паклікаць Лёшу. Гэта ўжо не лезла ні ў якія вароты. Зрабіў паслабку аднаму — заўтра ў блуд кінуцца ўсе, атакуюць дзеўкі пражэктар, як гэтая Хельда.

Гаціцідзе не надта бедаваў, мо нават быў рады, што не пусціў да Хельды: ці то хапіла яму і ўчарашняга, ці то прыкінуў, што будзе ўжо занадта адпрошвацца заўтра праводзіць Хельду.

Думаў, з ад'ездам Хельды раман скончыўся. Але дзе там! Праз пару дзён на Лёшава імя прыйшло пісьмо з Нарвы. Ад Хельды. Яна не ведала ні Лёшавага прозвішча, ні нумара вайсковай часці, напісала, як Ванька Жукаў “на вёску дзядулю”, аднак пісьмо дайшло, паколькі на ўсё наваколле быў толькі адзін Лёша. Два дні чытаў-перачытваў, лагодна ўсміхаючыся ў вусы. Садзіўся пісаць, але нешта не выходзіла, камечыў і кідаў у печку. На пяты дзень працягнуў Хельдзіна пісьмо і папрасіў:

— Пачытай, камандыр...

— Гаціцідзе, чужыя пісьмы чытаць непрыстойна, брыдка.

— Камандыр, пачытай, — узмаліўся Лёша. — Ы напышы Хэльда, пысаць па-руску нэ ўмею. Напы-ы-шы-ы, камандыр...

Угаварыў. Па Хельдзіным пасланні было відаць, што яна за птаха. Узяў “Песню песняў” Саламона, для хохмы асучасніў, мадэрнізаваў трохі тэкст, надаў канкрэтыкі і накатаў старонак на пяць ад Лёшавага імя. Лёшу так спадабалася напісанае, што з тыдзень, пакуль не атрымаў адказ ад Хельды, хадзіў і прыцмокваў: ай, камандыр, ай галава!

Хельдзіна пасланне ў адказ адрознівалася ад ягонага, як Саламонава “Песня песняў” ад трывіяльнай парнухі, дзе ўсё называецца сваімі іменамі. Чытаць было немагчыма — душыў смех. Гаціцідзе слухаў і чырванеў, як макаў цвет, ад ейных кампліментаў. Узяў Хельдзіна пісьмо, парваў, шпурнуў у печку:

— Нэ харошы дэвачка!

— А чатыры разы запар дэвачцы харашо? — спытаў строга, ледзь стрымліваючы смех.

Лёша глянуў запытальна, збянтэжаны такім пытаннем, падумаў і, паколькі ведаў, што нельга пярэчыць Алаху, бацьку, аксакалам, і яму, камандзіру, згадзіўся:

— Нэ харашо, камандыр..

Рагатаў да колікаў у жываце. Лёша недаўменна лыпаў сваімі чыстымі наіўнымі вачамі, не мог уцяміць, чаго ён рагоча.

Неўзабаве Собалеў прынёс ад паштаркі новае Хельдзіна пасланне. Пісала, не дачакаўшыся адказу. Зноў апавядала, як ссумавалася, месца сабе не знаходзіць. І самае галоўнае: збіраецца вырвацца на дзень-другі, каб нацешыцца ўс430 ўслодыч і ўдосталь, прасіла тэрмінова паведаміць, калі і ў які час можа ўзяць увальніцельную.

Толькі яшчэ гэтага не хапала! Напісаў за Лёшу: маўляў, тэрмінова пасылаюць у камандзіроўку на Далёкі Усход, вярнуся толькі зімою.

*(Працяг на стар. 12)*

## "Там нашыя песні..."



**Паасобку гэтыя цудоўныя крылатыя спеўныя стварэнні зрэдчас прарываюцца ў эфір. Прадставіць жа іх цэласным цыклам, згуртаваўшы на CD, удалося далёка ад роднага гнязда — у Расіі, нібыта за Уралам. Чаму так няпэўна: "нібыта"? Таму што кампактдыск выйшаў без канкрэтных рэквізітаў і фірмовых знакаў. Але дзякуй Богу, што выйшаў, што яго ідэйна-вобразны і эстэтычны змест — на годным узроўні, гучанне — фірмовае. Дзіва што: запіс быў зроблены ў студыі Дзяржаўнага ансамбля "Песняры", пры ўдзеле самога Уладзіміра Мулявіна...**

**Год запісу — 1997-ы. У 98-ым, як вядома, музыканты ансамбля пачалі выступаць без свайго знакамітага мастацкага кіраўніка і пад новым імем: "Беларускія песняры", не здрадзіўшы, аднак, лепшым спадчынным песняроўскім традыцыям. Гэтую адданасць сваім вытокам (у самым шырокім сэнсе) пацвярджае і творчы праект, прымеркаваны да святкавання ў 2000 годзе юбілею Ларысы Геніюш: выданне CD з колішнім запісам.**

**CD пад назваю "Жывём" прадстаўляе цыкл песень, напісаных на вершы выдатнай паэтэсы Аляксандрам Кацікавым — ініцыятарам праекта, лідэрам "Беларускіх песняроў", мультыінструменталістам, кампазітарам, аранжыроўшчыкам (аўтар музыкі, перапрашаючы за гэта ў анатацыі да кружэлкі, зрабіў, складаючы песенны цыкл, неістотныя змены ў тэкстах Ларысы Геніюш, нейкія радкі прыдумаў сам, скарыстаў таксама адзін з вершаў Валянціны Аколавай).**

**Як маніфест гучыць уступная меладэкламацыя, а затым і спеў Уладзіміра Мулявіна ("Краю мой родны"). Спавітая тугою песня пра "калыску дум ранніх, вясёлкавых дзён" — край, "быццам казка старая, прыгожы", дзе "нехта рассыпаў вялікім багаццем вечныя скарбы ў цудоўны узор"...**

**Далей — яшчэ дзевяць разгорнутых вакальна-інструментальных кампазіцый, згрупаваных паводле жанравых, тэмпавых, вобразных кантрастаў.**

**"Ой, пайду" — па-народнаму каларытная, сакавіта аранжыраваная, рытмовая, рухавая песня. (Аляксандр Кацікаў — клавішныя, бас-гітара, рытм-машына, вакал; Алег Моўчан — клавішныя інструменты; Аркадзь Іваноўскі — гітара; Уладзімір Марусіч — перкусія; вакалісты Ігар Пеня, Алег Казловіч).**

**А "Мой родны кут, мой ціхі дом"? Якая пранікнёная, пяшчотная лірыка! Праз агучаныя Алегам Казловічам паэтычныя радкі раскрываецца Душа, што "і ў ясны дзень, і ў ноч без зор... як птах, пад туман дум ляціць на шлях, дзе песняй бор калыша долі нашай сум".**

**Пад "рокавую" віхуру "Мяцеліцы", пад чаўнаковае "дыска" спрытнай маладой ткаллі ("Не зязюля кue") нават можна й паскакаць.**

**"На начлезе" ("Ходзяць коні") зачароўвае прыгожым вакальным гукапісам, паліфаніяй, рамантычнымі гармоніямі — усё гэтак нагадвае непераймальны "песняроўскі" харал!**

**"Наша мова" (вакалісты Валерый Дайнека, Аляксандр Кацікаў) павабіць казкай спаткання з родным словам, як у прыгожым дзіцячым сне. "Песня" нагадае адвечную таямніцу беларускай калыханкі з яе ціхім "сумам скрытым"...**

**Апроч ужо названых музыкантаў, у выкананні песень удзельнічалі гітарысты Уладзімір Ткачэнка, Віктар Малчанаў, саксафаніст Ігар Люты, баяніст Уладзімір Гінько. Мастэрынг кружэлкі ажыццявіў Ігар Арцёмкаў. Аформіў дыск, паводле канцэпцыі А. Кацікава, Аляксандр Іваноў, які адмыслова для гэтага праекта зрабіў жывапісны дыпціх "Сведка стагоддзяў". З асаблівай удзячнасцю ад аўтара музыкі ў анатацыі пералічаны прозвішчы людзей, якія паспрыялі рэалізацыі праекта. Дзякуючы добрым людзям — "Жывём"?**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ЮБІЛЕІ

# Зачараванне шчырасцю і талентам

Складаны сёння час, непрадказальны, тлумны, агрэсіўны. Чалавечыя сэрцы і душы на зломе вякоў і тысячагоддзяў усё часцей напаўняюць трывога, адчай і боль. Эканамічныя, экалагічныя праблемы цесна пераплятаюцца з эстэтычна-культурным збядненнем. Аднак адначасова спее, збіраецца нябачная, кволая энергія, што канцэнтруецца ў магутную хвалю, якая — верыцца! — абавязкова абрынецца цёпла і радасна. Інакш быць не можа, бо тады нас чакае апакаліптычны час з немінучым і страшным фіналам.

Нечаканыя змены ў постсавецкім грамадстве прынеслі разам з маральна-псіхалагічным разняволеннем шмат бруду. Стварылася своеасаблівая балотная твань з бальшавіцка-камуністычнага ўчарашняга. На першы погляд, вінавата замежжа, адкуль хлынулі наркаманія, парнаграфія, тэрарызм і г. д. Але чаму ж мы, такія ідэйныя, чысценькія, загартаваныя, як сталь, лёгка (у большасці сваёй) плюхнуліся ў балота? Пытанне вельмі складанае, адразу і не адкажаш. Хутчэй за ўсё таму, што жылі ў ілюзорна-лжывым, адарваным ад чалавецтва, ізаляваным грамадстве. І каб набыць імунітэт да шкоднага, нездаровага ўплыву, патрэбны пэўны перыяд. Магчыма, нават доўгі, бо аб'ядналіся бруд наносны і савецкае ачмурэла-бязглуздае п'янства з эканамічным няўмельствам.

Адным словам, трэба ратавацца. І выратаванне ў прыгажосці. Пагаджуся з гэтай старой ісцінай. Думаецца, яна — сапраўды ісціна. І немалаважную ролю несумненна адыграе стары-стары тэатр з сучасным дыханнем. Упэўніўся ў гэтым у апошнія гады, калі пазнаёміўся з творчасцю Мінскага абласнога драматычнага тэатра з Маладзечна. Ён здзівіў і зачараваў мяне нейкай асаблівай, непаўторна-арыгінальнай аўрай.

Каб нешта сказаць пра тэатр па сутнасці, трэба ім, напэўна, захварэць, трэба ведаць кожны складнік гэтага дзейства. Я не тэатральны крытык, а звычайны глядач, і таму няхай даруюць тыя, хто лепш за мяне разбіраецца ў сцэнічным жыцці, калі я ў нечым памылюся ў сваіх разважаннях, але з'явілася жаданне выказацца, падзяліцца сваімі



ўражаннямі. Надта ж — паўтаруся — зачараваны і здзіўлены майстэрствам маладзечанцаў. Хоць у назве тэатра "Мінскі", на самай справе "выпеставаны" ён у Маладзечне, і асноўныя намаганні ў яго фарміраванні належаць Мікалаю Мацкевічу — мастацкаму кіраўніку і галоўнаму рэжысёру калектыву.

Упершыню я трапіў у палон аўры гэтага тэатра вясной мінулага года падчас яго гастроляў у Мінску ў памяшканні Маладзёжнага тэатра. Не чакаў ад правінцыялаў такога прафесіяналізму. Асабліва ўразіла ігра актрысы Алены Рахмангулавай у спектаклі "Вавілон" па п'есе А. Дударава. Мне здаецца, што творчы патэнцыял у яе вялікі і пры спрыяльных умовах яна расквітнее надзвычай ярка і прывабна. Верыш у гэта, калі глядзіш на сцэну. Гераіня Анця настолькі пераканаўчая, ажно забываеш, што гэта ўсяго толькі ігра, а не рэальнае жыццё.

Падчас тых вясенніх гастроляў удалося паглядзець яшчэ дзіцячы спектакль "Чарадзейства ў краіне Оз" Г. Булыкі. Раіў бы, калі будзе такая нагода, паглядзець гэту пастаноўку і дарослым. Зноў жа ўражвае ігра акцёраў. Рукі самі цягнуцца адна да другой, каб паапладзіраваць, а часам нават хочацца ўсхапіцца з месца і выклікнуць гучна: "Цудоўна!"

Апошнім часам тэатр з Маладзечна — часты госць у Палацы культуры Мінскага трактарнага завода. Тут мне нарэшце давялося паглядзець спектакль "Прынц Мамабук" па п'есе А. Дударава. "Мамабук" надта ж нашумеў па-за сцэнай. Дзякуючы гэтаму, атрымалася добрая рэклама спектаклю, які, на маю думку, несумненная ўдача трупы. Гэта сапраўдная камедыя-гратэск з выдатнай ігрой Віктара Багушэвіча, Ірыны Камышавай, Алега Чэчанева, Таццяны Грасевіч, Сяргея Карзея, Яўгена Іўковіча, Аляксандра Пашкевіча. Пад добрую музыку кампазітара Алега Залётнева надаюць экспрэсіўна-камічную афарбоўку сюжэту танцоўшчыцы Ірына Кляпацкая, Людміла Лагуновіч, Святлана Юркевіч і фальклорны ансамбль у складзе актрыс Эміліі Ларыёнавай, Алы Стэльмах, памянёнай вышэй Алены Рахмангулавай і Людмілы Рошчынай.

Заслужанаму дзеячу культуры Рэспублікі Беларусь Мікалаю Мацкевічу са сваімі калегамі па тэатральным цэху ўдалося стварыць захаплялънае відовішча, і гледачы ўдзячна рэагуюць кожнай клетачкай, пра што сведчаць апладысменты, шчырыя, нязмушаныя

ТВОРЧАСЦЬ

# У люстэрку канцэртнай сцэны

***У эпоху актыўнага функцыянавання разнастайных гіперсучасных музычных тэхнік здаецца, што жыхары Беларусі не імкнуцца, як раней, да ўз'яднання праз песню, з гістарычнымі каранямі, з мінуўшчынай. Вырашэнне прыватных побытавых праблем адсоўвае на другі план кола тых мастацкіх і эстэтычных запатрабаванняў, якімі спрадвечна вызначаліся памкненні да кантакту з вуснай народнай музычнай творчасцю, яе адметнымі формамі, прыналежнымі да нашага фальклору, — песнямі, танцамі, інструментальнымі мелодыямі, дзе гучалі самыя шчырыя і патаемныя пачуцці і эмоцыі, дзе быў свет-увасабленне душы вясковага чалавека на працягу ўсяго яго жыцця.***

У савецкія часы, як вядома, здзяйсняліся спробы "асучасніць" нават архаічны фальклорны пласт, выкарыстаць на грамадскім узроўні ўласцівую яму моцную па ўздзеянні сугестыўную аснову. Ствралася неверагодная колькасць "народных" калектываў (хораў, фальклорных ансамбляў, ансамбляў песні і танца і да т. п.), якія выконвалі папулярныя пераапрацоўкі ўзятых са зборнікаў і мясцовых народных песень, а таксама творы прафесійных і самадзейных кампазітараў, стылізаваныя пад фальклор. Разнастайныя публікацыі ў цэнтральным друку 30-х і потым — 50-х, 60-х гг., праблемныя матэрыялы, "круглыя сталы"-дыскусіі з удзелам кіраўнікоў "народных" калектываў і навукоўцаў (музыказнаўцаў-фалькларыстаў, філолагаў) не толькі заклікалі да стварэння новых народных песень на сучасныя надзённыя тэмы, але і папярэджвалі пра небяспеку падмены. Падмены ў грамадскай свядомасці аўтэнтычных формаў музычнага фальклору — заўсёды спантанных, стыхійных, самадастатковых, "кантактных" паводле існавання, прынцыпова калектыўных, вусных паводле захавання, — сучаснымі прагматычнымі праявамі арганізаванага фальклорнага руху, забаўляльнага ў сваёй аснове, які часам спрыяе росквіту ўсемагчымых падробак.

Разам з негатыўнымі ўплывамі (бо культываваныя ў іх "другасныя" формы музычнага фальклору, г. зн. апрацаваныя "першакрыніцы", падмянялі сапраўднае, набывалі ролю нібыта першасных аўтэнтычных), праяўленыя ў самадзейным руху своеасаблівыя плыні нацыянальнага адраджэння мелі і станоўчыя бакі. Песенная, танцавальная, музычна-інструментальная творчасць, існаванню якой вельмі жорстка супрацьстаяла эпоха таталітарызму, здолела самазахаваць сябе ў выглядзе, азначаным у свой час Я. Гіпіусам як "арганізаванае аматарства". А тыя новыя мастацка-адметныя формы, якія ў пэўным сацыяльным асяродку замясцілі ўласна фальклор, сталіся з цягам часу цікавай маргінальнай культурнай праявай XX стагоддзя.

Да прыкладу, народныя хоры ці ансамблі песні і танца, якія ўкараняліся замест аўтэнтычных гуртоў, напачатку імкнуліся ў сваёй дзейнасці да ўзнаўлення фальклорнага і спрадвечнага, бачылі ў гэтым заруку нацыянальнай самабытнасці. Апора на папулярны песенны, танцавальны, музычна-інструментальны рэпертуар, разам з вынайдзенай харавікамі-прафесіяналамі так званай "народнай манерай" спеву, сцэнічных паводзінаў і да т. п., — усё гэта злілося ў пэўны комплекс-стэрэатып "народнага" калектыву.

Пры ўсёй неадназначнасці дачыненняў такой з'явы масавай культуры, як самадзейны "народны" калектыў, з фальклорам і прафесійным мастацтвам, гэтая з'ява мае свае яркія праявы і пазначае кірунак творчасці. Знаёмства з калектывамі, якія тым ці іншым чынам далучаюцца да жыватворнай народнай крыніцы, пашырае наша бачанне разнастайнай культурнай панарамы сучаснасці.

●

Адзін з магчымых падыходаў да ўзнаўлення традыцыйнай фальклорнай спадчыны прадстаўляе ў сваёй працы вядомы руплівец на ніве народнай творчасці, загадчык кафедры народных харавых спеваў Беларускага універсітэта культуры Станіслаў Дробыш. Яго імя неаддзельнае ад шматгадовай гісторыі аднаго са старэйшых калектываў БУКа — фальклорнага вакальна-харэаграфічнага ансамбля "Валачобнікі".

Ансамбль пад мастацкім кіраўніцтвам С. Дробыша — даволі вядомая ў нашай краіне творчая суполка, якая імкнецца да ўвасаблення папулярных народных песень сродкамі сцэны, праз яе магічнае ўздзеянне на слухачоў. Музычна-тэатралізаваныя імпрэзы калектыву накіраваныя ў спецыфічнае рэчышча захавання старажытных фальклорных формаў праз іх сцэнічнае ўвасабленне. Для "Валачобнікаў" важнымі падаюцца праблемы адпаведнасці музычным густам публікі, кантактаў са слухачамі, "ускоснага" эстэтычнага выхавання нашага грамадства.

Напэўна, артыстам удаецца гэтыя праблемы вырашаць, бо іх творчыя вопыты станоўча ацэньваюцца аматарамі сучаснага фальклорнага мастацтва; калектыў неаднаразова ўдзельнічаў у розных фестывалях і конкурсах, гастраляваў у ЗША, Іспаніі, Францыі, Польшчы, Балгарыі. З нядаўніх перамог нагадаем V Рэспубліканскі фестываль "Студэнцкая вясна-1998", дзе "Валачобнікі" атрымалі Гран-пры сярод калектываў вакальна-харавога мастацтва; І фестываль студэнцкага гумару "Юмарына-2000", на якім "Валачобнікі" сталі лаўрэатамі ў намінацыі "жартоўная песня". Да таго ж, С. Дробыш быў адзначаны ў 1998







## "Радзіма мая — гэта я"

У Докшыцкім гарадскім Цэнтры культуры адбылася сустрэча з пісьменнікам-земляком Іванам Стадольнікам, якую арганізавалі работнікі раённай бібліятэкі на чале з дырэктарам ЦБС І. Салодкінай.

Нядаўна Івану Канстанцінавічу споўнілася 60 год і, зразумела, што ў такі адметны час ён не мог не наведаць родную зямлю, якая натхняла яго Музу. Вось таму першым прыпынкам гасцей, а з Іванам Канстанцінавічам яшчэ была яго дачка, журналіст газеты "Советская Белоруссия" Аэліта Салжына, і сябра, пісьменнік Алесь Масарэнка, стала вёска Янкі Докшыцкага раёна, дзе Стадольнік нарадзіўся. У мясцовай школе вельмі цёпла прайшла сустрэча з вучнямі, настаўнікамі. Дзеці чыталі вершы юбіляра і іншых беларускіх паэтаў, паказалі невялікі канцэрт, у час якога Івана Канстанцінавіча чакаў сюрпрыз. Песню для свайго хроснага бацькі выканаў хрышчонік паэта першакласнік Саша Кеда.

У Докшыцах сталічных гасцей чакалі вучні гарадскіх школ, грамадскасць горада, бібліятэкары, настаўнікі раёна. Іван Канстанцінавіч заўсёды жаданы госць у землякоў, якія ганарацца і ведаюць яго творчую спадчыну. А яна вельмі разнастайная і даволі багатая.

Чытачу І. Стадольнік вядомы як паэт, пісьменнік, публіцыст, драматург. Ён надрукаваў дзве кнігі празаічных твораў "Хачу табе шчасця" і "Лістапад на пачатку лета", кніжку вершаваных і празаічных гумарэсак "Як тут не смяяцца" і іншыя. Доўгі час працаваў у часопісе "Вожык".

З прыхільнікамі яго таленту, якіх цікавілі многія пытанні з жыцця і творчасці пісьменніка, у Івана Канстанцінавіча адбылася цікавая, жывая размова.

Шмат цёплых слоў, падарункаў атрымаў у гэты дзень пісьменнік на роднай зямлі. Першым выпаў гонар віташь Івана Канстанцінавіча галоўнаму рэдактару раённай газеты "Родныя вытокі" Мікалаю Аўтуху, бо менавіта на яе старонках упершыню былі надрукаваны вершы тады яшчэ юнага паэта. Тут ён атрымаў і першую рэцэнзію на іх. Прывіталі пісьменніка загадчык аддзела культуры райвыканкама У. Пусташыла, дырэктар цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы І. Салодкіна, настаўніца Таргуноўскай базавай школы Г. Корсак. Самадзейныя артысты ГЦК Людміла Лаўрыновіч, Вадзім Кішулька, Дзмітрый Усок, Тамара Мацкевіч падарылі юбіляру музычныя падарункі.

Шчырыя словы ўдзячнасці, кветкі, падарункі, на якія была багата сустрэча, шматлікія жадаючыя атрымаць аўтографы пісьменніка пасля яе заканчэння — лепшае сведчанне таго, як цягнуцца людзі да літаратурнага слова. Таму мае рацыю Алесь Масарэнка, які, заканчваючы сваё выступленне, сказаў: "Беларуская літаратура існавала і існуе. Яна магутная і багатая, мае свайго шырокага чытача. Верце ў яе. Ведайце сваю спадчыну і думайце пра Беларусь".

**Тамара ЧУВАХОВА**

## Выдадзена ў Беластоку

У серыі выдавецтва "Бязмежжа" ў Беластоку выйшла ў перакладзе на польскую мову кніга прозы Уладзіміра Арлова "Рэквіем для бензапілы". Яе склалі эсэ і апавяданні, напісаныя ў апошнія гады, і "Сібірская аповесць" пісьменніка.

Адкрываецца кніга свайго роду візітоўкай У. Арлова, вядомым эсэ "Незалежнасць — гэта...", якое перакладзена ўжо болей чым на 20 моў.

Кнігу ўклаў і напісаў пасляслоўе Ян Максімюк. Ён жа перакладчык на польскую мову шэрагу змешчаных у зборніку твораў (Максімюк вядомы нашаму чытачу як перакладчык на беларускую Джойсавага "Уліса").

Да таго, каб творы Арлова загучалі папольску, далучыліся таксама Міраслава Лукша, Алег Латышонак, Галіна Максімюк, Чэслаў Сенюх і Аляксандр Вярбіцкі.

**Н. К.**

ВІНШУЕМ!

# Жарцікамі, жарцікамі ды... на Парнас

## Янусю МАЛЬЦУ — 50

***Свой поўдзень веку Іван Вільгельмавіч сустрэў і важкімі творчымі набыткамі, і багаццем пройдзеных дарог. Нарадзіўшыся ў вёсцы Хрыстова Пастаўскага раёна, пасля заканчэння васьмі класаў вучыўся ў Полацкім ГПТВ-66, працаваў на Віцебскім заводзе сантэхзагатовак. Пасля паступіў вучыцца на машыніста ў Находкінскую марскую школу тэхнічнага флоту. Была служба ў арміі, завочная вучоба ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, які скончыў у 1983 годзе. Працаваў сцэпшчыкам вагонаў, сарціроўшчыкам цэглы, механікам па абслугоўванні тэлеабсталявання... З 1993 года быў рэдактарам літаратурнага аддзела ў часопісе "Вожык". Літаратурнай працай займаецца з 1974 года, а з першымі творамі ў рэспубліканскім друку выступае з 1984-га. Асноўнае прызванне Януся МАЛЬЦА — сатыра і гумар, хоць не цураецца і "сур'ёзнай" паэзіі. З'яўляецца адным з аўтараў калектыўных зборнікаў "Лагодны прамень раніцы" (1988), "Асцюкі за каўняром" (1989), "Трусцой на Парнас" (М., 1989, "Библиотека "Крокодила"). Хораша зарэкамендаваў сябе і ўласна аўтарскімі кніжкамі, звярнуўшы ўвагу і чытачоў, і крытыкі зборнікамі "Бедны конь" (1992), "Трава ў вушах" (1994), "Родны мацярык" (1995).***

***З днём нараджэння, дарагі Іван Вільгельмавіч! Далейшага вам спору ў жыцці і творчасці!***

Янусь МАЛЕЦ



### На зломе часу

#### Беларусі — жыць!

Нілу ГІЛЕВІЧУ

*Ну вось і XXI-ы!*
*Ну вось і дажылі...*
*Чамусьці толькі вершы*
*Трывожныя пайшлі.*

*Сапраўдныя паэты,*
*Не гора-салаўі,*
*Рыфмуюць стогн планеты*
*У вершах у сваіх.*

*Радкі іх то заплачуць,*
*То гнеўна закрычаць,*
*А гэта, гэта значыць,*
*Што душы іх — гараць!*

*Паэты-сцяганосцы!*
*За ваш пякучы боль*
*Няхай вам лёс дасць моцы*
*І хлеб на стол, і соль.*

*За вашыя пакуты —*
*Інакш не можа быць —*
*З людзей Бог скіне путы,*
*І Беларусі — жыць!*

#### Я — народ...

*Я — народ... Я цярплю, ды ўсё ж веру:*
*Жыць нядоўга хлусні і цынізму,*
*І з надзеі маёй, з маёй веры*
*Храм паўстане без розных там "ізмаў".*

*Я — народ! Адчыняю я дзверы*
*У збудаванне наступных вякоў,*
*Дзе на месцы баёў і імперый —*
*Мірны водар вясенніх садоў.*

#### Там...

МАМЕ

*Маё любімае Хрыстова,*
*Мая маленькая Айчына...*
*Туды, а не ў кірунку Рыма,*
*Я шлю маёй малітвы словы.*
*Там мой Хрыстос, і мой там Бог,*
*Мая Марыя-дзева,*
*Там скрыжаванні ўсіх дарог*
*Направа і налева.*
*Там пачыналася дарога,*
*Туды вяртаюся з адчаем*
*І ўспамінаю там звычайна,*
*Што нарабіў памылак многа.*
*Я там на могілках маўчу*
*З душэўным ціхім болем*
*І так заплакаць там хачу,*
*Здаецца, як ніколі.*
*Змяніў бы я свой шлях жыццёвы*
*І па-другому жыў бы сёння,*
*Не апынуўся б у палоне*
*Нікчэмных спраў, былых і новых.*
*Пайсці б асмеліўся ў касцёл,*
*Перад крыжом сагнуў бы спіну...*
*Даруй мне мама — мой Анёл! —*
*Што быў я грэшным сынам.*

•

*Я д'яблам гімн не прапяю*
*І за мільён даляраў,*
*Хоць і грашу, гарэлку п'ю,*
*Жыву-скрыплю за тару.*

*Я д'ябал сам? Што ж, можа быць...*
*Але іду да Бога.*
*Я іншых не хачу вучыць,*
*Якой ісці дарогай.*

*А ёсць жа — вучаць і вядуць,*
*Уладна шлях нам чэрцяць.*
*Яны не кураць і не п'юць,*
*Аднак — якія ж чэрці!*

*З-за ўлады кінуць і сям'ю,*
*Пасадны трон — іх мара.*
*Я д'яблам гімн не прапяю*
*І за мільён даляраў!*

#### Вулічная замалёўка

*Ідзе! Маладая! Прыгожая!*
*Імклівая, быццам лань!*
*Няменюць мужчыны-прахожыя:*
*Ці ява яна, ці здань?*

*І кожнаму хочацца позірку*
*Яе зіхатлівых вачэй, —*
*Блакітных, як неба над возерам, —*
*Каб стала на сэрцы святлей.*

*Дык глянь жа ў іх вочы ахвочыя —*
*Няхай маладзеюць душой,*
*Хай трызняць табой усяночна*
*Злыселай сваёй галавой!*

# ДЗЕ Ж ТЫ, МОЙ СУЛІКО...

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

Хельда, мусіць, усё зразумела ці мо знайшла ў сваёй інтэрнацыянальнай рускамоўнай Нарве, пра якую тады трубілі — праабраз будучай Эстоніі, — іншага, не горшага за Лёшу джыгіта.

Усміхнуўся, прыгадаўшы тую смешную гісторыю. Усяго было — і вясёлага, і сур'ёзнага. Такога сур'ёзнага, што сёння падаецца смешным, і такога смешнага, што на сённяшні розум плакаць хочацца. І дзякуй Богу, што ёсць на свеце наіўныя дзівакі, як Лёша-Суліко Гаціцідзе, якія скрашваюць панылую сур'ёзнасць.

Цікава, а які сёння сівагаловы аксакал Суліко Гаціцідзе? Такі ж наіўнаваты дзівак ці салідны, паважаны, мудры дзядуля? Мо ого якімі справамі заварочвае! Дзіваком можна падавацца ў чужым асяроддзі, а ў сваім... І не такі ён, мусіць, быў дзівак, як здавалася. Прызнаўся неяк, што да арміі ездзіў на ўласным, тады самым модным вялікім чорным лімузіне. Гэта сёння на лімузінах ездзяць жук і жаба, абы грошы. Мала тады было мець грошы — спрыт павінен быў быць, ды яшчэ які спрыт, каб займець лімузін! Бедаваў, што не ўдалося адкруціцца ад арміі, як двум старэйшым братам: прыслалі новага ваенкама, такога паганага, што ніяк нельга было пад'ехаць. Праўда, неўзабаве прагналі, але было позна...

Служыў Лёша на пражэктары добрасумленна, сам прызнаваўся, што служба яму ў радасць. Яфрэйтарская лычка, якая дасталася яму пасля Шпакоўскага, была вяршыняй шчасця, і гэтае ягонае шчасце таксама нельга было ўспрымаць без смеху.

— Камандзір, нықто ныкагада ў нас эфрэйтарам нэ прыхадыл, — узнёсла, натхнёна радаваўся ён. — Ды мнэ аксакал пэршы руку падават будэт: пагранычнык, а нэ страйбат!

— Лёша, будзеш добра служыць — яшчэ адну лычку дадуць пры дэмабілізацыі. Малодшым сяржантам вернешся.

— Шутыш, камандыр, — недаверліва паглядзеў ён.

— Усім даюць, хто не праштрафіцца...

І Лёша служыў, каб не праштрафіцца. Калі адлучаўся на заставу ці даручаў правесці за сябе нейкія заняткі, маладыя аж стагналі ад яго. Як для камандзіра, добра мець такога намесніка, аднак у душы ўзнікала нейкая прыкрасць: Гаціцідзева жорсткасць не выклікала сімпатыі.

Ранняй вясною, як памянела работы, выклапатаў праз капітана для Лёшы дзесяцідзённую паездку на радзіму. Як вярнуўся, расказваў, што яго з яфрэйтарскай лычкай, масіўным нагрудным знакам "Отличный пограничник" землякі сустрэлі як нацыянальнага героя, пяць дзён святкавалі ўсім пасёлкам. Тым не меней, паспеў памяняць свой чорны "ЗИС" на звышмодную "Волгу" з блішчастай нікелевай абляможкай. Прывалок з сабою агромністы чамадан з нечуванымі прысмакамі і для "камандыра" персанальна — дзве пляшкі віна з сямейнага пограба: адну ягонага года нараджэння вырабу, другую ўвогуле стогадовай даўнасці. Тады не здагадваўся аб сапраўднай вартасці і сімволіцы гэтых падарункаў, з лёгкай душою перапрэзентаваў нампаліту, паколькі на пражэктары трымаў строга сухі закон. Праўда, для цікавасці адкаркаваў употай, зрабіў па маленькім глытку з кожнай — нічога асаблівага, кісленькае.

Ці гэта рыса каўказскага характару, ці Лёшава індывідуальная, але ён абсалютна шчыра ўмеў быць удзячным, плаціць дабром за дабро. У жыцці часцей за ўсё здараецца наадварот: каму рабіў дабро — альбо тут жа забываліся, альбо адплачвалі няўдзячнасцю, нават подласцю. Лёша пяць гадоў пасля дэмабілізацыі пісаў свайм каравым маларазумелым почыркам і ў кожным пісьме запрашаў быць самым ганаровым і шаноўным госцем усяе ягонай радні, засмучаўся, што не можа прысылаць мандарынаў, персікаў, бо іхняе начальства забараніла поштце прымаць такія пасылкі. І ніяк не мог зразумець, чаму не прыязджае ў госці, пытаў "мо з грашыма туга, камандыр, то вышлю, толькі прыязджай". І неяк атрымаў пераводна астранамічную для яго суму. Лёшавым почыркам на адрыўным цэтліку напісана: прыязджай, камандыр, маё вяселле і дата. За тыя грошы можна было наняць таксі і месяц катацца па ўсёй Грузіі, аднак і на гэты раз выбрацца ў паездку не дазволілі нейкія неадкладныя справы. Павіншаваў тэлеграмай, а грошы адаслаў, чым пакрыўдзіў Лёшу. Аднак ён яшчэ гады тры не пераставаў слаць запрашэнні, аж пакуль перапіска стала радзейшай і нейк сама па сабе абарвалася.

Шкада, што не выбраўся, так і не наведаў Лёшу. Аднойчы ўжо зусім намерыўся, едучы адпачываць у Гагры. Ды смех прызнацца: у спешцы зборнаў забыў прыхапіць Лёшаў адрас, а ў памяці не захаваўся. Напісаў з санаторыя жонцы, каб знайшла і прыслала, але яна не знайшла. Запісаўся на экскурсію ў Батумі, спадзеючыся на цуд. Ды падобныя цуды бываюць толькі ў дурнаватых кніжках. Пабачыў казачную Лёшаву Калхіду, — і тое добра. А цяпер, калі часу — хоць адбаўляй, толькі і падарожнічай, як пенсіянеры на загнілым-перагнілым Захадзе, дык трасу выберашся на нашанскую пенсію! На другі канец горада з'ездзіць з перасадкамі, і то прыкідваеш-разумваеш...

# "Нацыянальную культуру мы разглядаем як важнейшы стратэгічны рэсурс дзяржавы"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3, 5)*

Максім Танк цалкам справядліва пісаў: "Кожны мастацкі твор павінен прайсці праз дзве судовыя інстанцыі: сучаснасць, якая часта памыляецца, і будучыня. Час выпраўляе ўсе памылкі".

Павінен сказаць, што наша гуманітарная навука сёння не на вышыні. Адмовіўшыся ад эстэтычных канцэпцый савецкіх часоў, літаратура- і мастацтвазнаўства пайшло не наперад — да глыбокага вывучэння новых з'яў культуры, а назад, да простай канстатацыі фактаў, кампліментарнасці, суб'ектывізму і прымітыўных ацэнак.

Думаю, Нацыянальнай акадэміі навук, профільным інстытутам неабходна кардынальна паляпшаць сваю работу і выходзіць на ўзровень сучасных патрабаванняў аховы і ўмацавання духоўнай і эстэтычнай самабытнасці і творчага багацця нашай культуры.

Актыўная і плённая работа гуманітарнай навукі, мастацтвазнаўства дапаможа процістаяць разбуральным працэсам навязвання свету адзіных стандартаў масавай эрзацкультуры, нівеліравання, дэградацыі і вырараджэння мастацтва. Дасць магчымасць абараніць культурную спадчыну і сучаснае духоўнае багацце ўсёй нашай славянскай цывілізацыі ад негатыўнага ўздзеяння глабалізацыі, а больш дакладна, ад амерыканізацыі, вось у гэтым я бачу, як казаў Станіслаўскі, звышзадачу вашай дзейнасці, паважаныя вучоныя і творчыя работнікі. Зразумела, што процістаяць вялікаму патоку нізкапробных твораў і модных павеваў цяжка. Але ўспомніце народную мудрасць: жывая рыба плыве супраць цячэння, а тухлая — уніз па рацэ.

Я веру ў вашы творчыя сілы, у ваш талент і энергію, дарагія майстры культуры, і спадзяюся на поспехі ў важнай і высакароднай справе духоўна-маральнага развіцця нацыі!

3. У кантэксце лепшых нацыянальных традыцый сцэнічнага мастацтва актыўна развіваецца беларускі тэатр.

Шырокае прызнанне ў айчыннага і замежнага гледача атрымалі спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета.

Беларускі балет — выдатная з'ява ў сучасным нацыянальным мастацтве. Небывалы ўзлёт і прызнанне беларускага харэаграфічнага мастацтва на міжнароднай арэне звязана з імем мастацкага кіраўніка тэатра, балетмайстра, народнага артыста СССР Валянціна Елізар'ева. У апошнія гады шырокую вядомасць атрымалі спектаклі рэжысёра Мікалая Пінігіна, драматурга Аляксея Дударава.

4. Да ліку пазітыўных з'яў культуры апошніх гадоў мы адносім вяртанне да актыўнай творчасці нацыянальнага кінавідэамастацтва.

Спатрэбілася маё асабістае ўмяшанне і ўдзел, каб ажывіць работу нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм". Умацаваць яе матэрыяльна-тэхнічную базу. Створаны мастацкі фільм Міхаіла Пташука "У жніўні 44-га", шэраг іншых кінатвораў. Кінамастацтва — справа дарагая. Але тое, што дорага каштуе, гэтак жа высока і цэніцца. Дзяржава аказвае вялікую матэрыяльную дапамогу айчыннаму кінематографу і мае права разлічваць на адпаведную аддачу.

Гэта датычыцца і рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Беларускі відэацэнтр". Сёння прадукцыя Белвідэацэнтра дэманструецца не толькі па першым Нацыянальным тэлеканале, значная яе частка ідзе па замежных каналах "Культура", НТБ, "АСТ-Прametэй" і "Інтэрньюс". Цэнтр прадаў шэраг фільмаў, атрымаў валюту і гэта пахвальна. Трэба і ў далейшым развіваць экспарт. Гэта больш чым простае зараблянне грошай. Гэта — прапаганда нашай культуры і прапаганда нашага ладу жыцця.

Пятае. Важнейшым складальнікам культуры з'яўляюцца музеі. У нашай краіне дзейнічаюць 185 музеяў з улікам філіялаў. Толькі ў 90-ыя гады створана 38 новых музеяў. На іх агульным балансе знаходзіцца каля 2,5 мільёна унікальных экспанатаў.

Штогод адкрываецца каля 1,5 тысячы выставак самай разнастайнай тэматыкі. Іх наведвае больш за 3 мільёны чалавек у год.

Пераасэнсаванне сацыяльнай ролі музеяў у новых эканамічных умовах дало магчымасць ім стаць больш актыўнымі даследчымі сістэмамі, адукацыйнымі, культурнымі цэнтрамі адпачынку.

Патрабуюць больш актыўнага ўключэння ў банкі даных сусветнай культурнай спадчыны гісторыка-архітэктурныя ансамблі гарадоў, гістарычныя сельскія паселішчы, асобныя помнікі. Інтэнсіўнасць рэстаўрацыйных работ павінна апярэджваць працэс разбурэння помнікаў. Неабходна распрацоўка комплекснай праграмы захоўвання гісторыка-экалагічных ландшафтаў, гістарычнай забудовы паселішчаў, цэнтраў народных промыслаў, рамёстваў. Гэта — не толькі даніна павагі да мінуўшчыны. Гэта — рэальны шлях забеспячэння культурнага адраджэння рэгіёнаў. Гэта — перспектыва экалагічнага і сацыяльнага развіцця правінцыі, занятасці мясцовага насельніцтва.

Пільную ўвагу трэба ўдзяляць выкананню комплекснай праграмы развіцця Полацкага нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

Ахова помнікаў, памятных мясцін часам патрабуе не столькі сродкаў, колькі пастаяннай увагі і клопату з боку творчых саюзаў, кіраўнікоў органаў улады на месцах. Таму кіраўнікі аблвыканкамаў, райгарвыканкамаў павінны лічыць аднаўленне гістарычных помнікаў сваёй святой справай. Вы ж жывяце ў гэтых гарадах і пасёлках. Там растуць вашы дзеці і ўнукі. Яны не павінны быць пазбаўлены гістарычнай памяці. Помніце. З любові да родных вытокаў вырастае любоў да нашай Радзімы.

Шостае. Народная культура — гэта шматгранная з'ява, у аснове якой развіццё фальклору, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, традыцый сямейнага і грамадскага быту.

Сёння сотні тысяч дзяцей і дарослых заняты рознымі відамі народнай творчасці. Дзейнічаюць 28 тысяч гурткоў і калектываў, клубы і гэтак далей.

Традыцыйнымі сталі фестывалі народнай творчасці нацыянальных культур.

У апошняе дзесяцігоддзе ўзрасла цікавасць да фальклору. Традыцыйныя народныя песні — найбагацейшая культурная спадчына беларусаў — трывала ўвайшлі ў рэпертуар фальклорна-этнаграфічных і самадзейных калектываў, тэле- і радыёперадач.

Дзяржава аказвае і будзе аказваць усялякую падтрымку развіццю народнай творчасці і народных промыслаў.

Сёмае. Культура дзяржавы, яе маральны і духоўны патэнцыял вызначаюцца ў многім работай бібліятэк. Да ўжо сказанага дадам, што асаблівую ўвагу варта ўдзяляць сельскім бібліятэкам як асноўным установам культуры і галоўным крыніцам інфармацыі. Вельмі вялікая іх роля ў прапагандзе навуковых ведаў, перадавога вопыту ў сельскай гаспадарцы і іншых галінах.

Сельская бібліятэка сёння сутыкаецца з вострай праблемай камплектавання. У сярэднім за год у яе фонды паступае толькі 30-45 назваў кніг, 5-10 назваў часопісаў, 3-5 газет, пераважна беларускіх.

Міністр культуры, кіраўнікі аблвыканкамаў павінны знайсці дзяржаўныя шляхі вырашэння ўсіх названых праблем. Людзям трэба даць магчымасць самага шырокага доступу да інфармацыі і да вытокаў нашай культуры.

Я даручаю Дзяржаўнаму камітэту па друку пашырыць пералік сацыяльна значнай літаратуры для камплектавання бібліятэчных фондаў. Выпуск гэтай літаратуры фінансуецца з дзяржаўнага бюджэту, таму трэба ўдасканальваць сістэму падбору выданняў як па тэматыцы, так і па мастацкім узроўні, каб за дзяржаўныя грошы не тыражавалася халтура і пасрэднасць.

Дарагія сябры!

Беларусь уступае ў новае стагоддзе як суверэнная еўрапейская дзяржава, якая ўпэўнена заявіла аб сваёй пазіцыі ў міжнародных адносінах, дынамічна развівае сваю эканоміку і культуру, умацоўвае дзяржаўнасць. Гэты этап нашага развіцця асаблівы, і ён патрабуе вашага разумення. Разумення таго, што ўсё, што мы робім у нашай дзяржаве, аб чым гаворым, што ствараем, адбываецца на гістарычным павароце. Сутнасць гэтага моманту ў тым, што мы ствараем сваю дзяржаўнасць, дзяржаўнасць на больш высокім узроўні. Мы ствараем абсалютна новую дзяржаву. На жаль, вопыт іншых не заўсёды спрыяльна кладзецца на беларускую глебу. Зразумейце, што вельмі цяжка тварыць, ствараць вялікае, падтрымліваць і фінансаваць, калі ідзе працэс стварэння самой дзяржавы і тых інстытутаў, якія павінны вырашаць гэтыя задачы. У гэтым заключаецца самая вялікая цяжкасць і праблематычнасць апошніх пяці гадоў як для прэзідэнта, прадстаўнікоў органаў улады, так і для вас, творчых работнікаў. Складанасці і маштабы праблем, якія сёння існуюць, патрабуюць вялікіх затрат, а сродкаў не хапае. І трэба адмовіцца ад ілюзій, што хтосьці нам гэтыя сродкі бязвыплатна дасць. Не дадуць, пакуль не пераканаюцца, што ў нас працуе эканоміка і мы маем магчымасць вярнуць атрыманыя крэдыты. Іншай логікі быць не можа.

Праўда, нядаўна стала вядома, што на прэзідэнцкую кампанію ў Беларусі з-за мяжы ўжо пайшло 70,8 мільёна долараў, а плануецца 108 мільёнаў. Ну, вядома ж, не прэзідэнту. Вам, можа, штосьці перападзе. Таму што без вас не абыдзецца гэта прэзідэнцкая кампанія. І вы, калі ласка, не адмаўляйцеся. Гэта будуць "добрыя інвестыцыі ў нашу культуру". Ну а выбары пройдуць цывілізавана, так, як хоча беларускі народ. Вядома ж, я гэта кажу жартам, але ў гэтым жарце многа праўды. Амаль уся праўда.

Людзі — вось галоўнае багацце нашай краіны. Ад іх працавітасці, энергіі, здольнасцяў і талентаў залежыць паспяховае развіццё нашай дзяржавы. Прыемна, што наш народ цягнецца да культуры і мастацтва.

Аб багацці людскіх талентаў, вялікай папулярнасці і высокім прэстыжы прафесіі работніка культуры сведчыць імкненне моладзі да атрымання мастацкай адукацыі. Аб гэтым сведчаць конкурсы ў ВНУ мастацтваў. Так, у Беларускай акадэміі мастацтваў, Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры агульны конкурс стабільна складае 4-5 чалавек на адно месца, а па асобных спецыяльнасцях дасягае 12 чалавек і вышэй.

Як відаць, праца па прызванні цэніцца сёння моладдзю даражэй за ўсё. Нам неабходна накіроўваць моладзь на вучобу ў вядучыя ВНУ Расіі і іншых краін, выпрацаваць сістэму пастаянных стажыровак творчых работнікаў за межамі Беларусі.

Штогод ва ўстановы культуры рэспублікі накіроўваецца больш як дзве з паловай тысячы дыпламаваных спецыялістаў. Задача кіраўнікоў мясцовых органаў улады павінна заключацца ў тым, каб стварыць усе неабходныя жыллёва-бытавыя і іншыя ўмовы маладым спецыялістам для работы.

У рамках магчымага дзяржава павінна зрабіць усё для сацыяльнай абароны работнікаў культуры і мастацтва, аказання фінансавай і арганізацыйнай падтрымкі творчых асоб, у тым ліку з Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. За час існавання фонду яго стыпендыятамі сталі больш як чатырыста таленавітых маладых людзей, лаўрэатаў шэрагу рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў. Гэта тыя, хто ўжо сёння з'яўляецца надзеяй беларускай культуры і мастацтва. І іх майстэрства павінна расці.

У нас надзвычай таленавітая моладзь. Дабіліся высокіх званняў лаўрэатаў юныя таленты Алег Яцына (скрыпка), Андрэй Кавалінскі (труба), Павел Кундзянок (габой), Міхаіл Лявончык (цымбалы).

Вучань музычнага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі Аляксандр Музыкантаў стаў пераможцам Міжнароднага конкурсу піяністаў "Мінск-2000". Высокае прызнанне публікі атрымалі студэнты Акадэміі музыкі Андрэй Паначоўны, Іосіф Сяргей, Сяргей Смірноў, Юрый Блiноў на самых прэстыжных міжнародных конкурсах у ЗША, Германіі, Італіі, Францыі, Бельгіі, Польшчы. Выдатную перамогу атрымала студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў Дар'я Мароз на Міжнародным конкурсе ў Швейцарыі "Алімпійскае мастацтва і спорт-2000".

За апошнія сем гадоў 150 работнікаў культуры і мастацтва былі адзначаны ганаровымі званнямі "Народны артыст", "Народны мастак", "Заслужаны дзеяч мастацтваў", "Заслужаны артыст", "Заслужаны дзеяч культуры" Рэспублікі Беларусь.

Імёны народных артыстаў Беларусі Міхаіла Дрынеўскага, Валерыя Раеўскага, Сяргея Картэса, Уладзіміра Гасцюхіна, Валянціна Дудкевіча, Міхаіла Фінберга, Барыса Луцэнкі, Васіля Раінчыка, Аляксандра Ткачонка і многіх іншых не патрабуюць сёння дадатковага прадстаўлення. Яны — гонар сучаснага беларускага мастацтва. Адзінае, аб чым хацелася б папрасіць. Несумненна, вы застаняцеся вялікімі ў нашай культуры. Але гэта веліч будзе яшчэ больш значная, калі вы выхаваеце дастойную сабе змену, новае пакаленне творцаў. А вы гэта можаце. У адваротным выпадку абясцэніцца ўсе нашы размовы і намаганні. Хацелася б, каб вы заўсёды аб гэтым помнілі.

Сёння мы захапляемся унікальнасцю захавання найвышэйшага майстэрства разьбы па дрэве. Адным з яркіх прадстаўнікоў народных майстроў Беларусі з'яўляецца Іван Філіпавіч Супрунчык, ураджэнец вёскі Цераблічы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Па прафесіі ён бібліятэчны работнік. Сваё бачанне свету ўвасобіў ва унікальных драўляных скульптурах. Па яго ініцыятыве ў роднай вёсцы створана бібліятэка-музей.

І такіх прыкладаў нямала. Таленавітыя прафесійныя майстры мастацтваў, выдатныя артысты мастацкай самадзейнасці, творчыя самародкі — усе яны з'яўляюцца залатым фондам і набыткам Беларусі, прадстаўляюць нашу краіну, яе багатую культуру.

Культура была і застанецца зонай асаблівай увагі дзяржавы.

Вельмі важная яе роля ў фарміраванні грамадзянскага грамадства ў нашай краіне. Развіццё дэмакратычных інстытутаў, стварэнне грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў — усё гэта вызначае сучаснае аблічча Беларусі. У гэтых працэсах якраз найбольшую актыўнасць праяўляе творчая інтэлігенцыя.

Хацелася б толькі падкрэсліць важнасць канструктыўнай дзейнасці грамадскіх фарміраванняў. Усе мы жывём у адной краіне і ўсім нам трэба думаць і клапаціцца аб яе дабрабыце. Паважаць Канстытуцыю, нашы дзяржаўныя сімвалы. Здавалася б, гэта элементарныя абавязковыя нормы для кожнага цывілізаванага чалавека. Аднак менавіта ў творчым асяроддзі бывае гэтакая бравада і патугі рэвалюцыйных змяненняў дзяржаўнага ладу.

Сутнасць грамадзянскага грамадства — не канфрантацыя, а сумесная канструктыўная работа грамадскіх арганізацый, рухаў, палітычных партый і ўсіх галін улады. Нам не патрэбны ўзрушэнні і смута, нам патрэбны парадак і працвітанне краіны!

Асабліва хачу сказаць аб творчых саюзах. Дзяржава падтрымала гэтыя грамадскія аб'яднанні творчай інтэлігенцыі. Быў прыняты спецыяльны закон аб іх дзейнасці. Цяпер трэба працаваць самастойна. Уносіць свой канструктыўны ўклад у развіццё культуры, мастацтва, навукі, у эканамічны ўздым краіны.

Безумоўна, я падтрымаю вашы праекты. Але праекты вартыя, значныя для краіны, па-сапраўднаму творчыя. Прапаноўвайце!

Сёння для кожнага творчага чалавека ў нашай краіне ёсць прастор для работы. Дзяржава высока цэніць усё, што робіцца на карысць народа.

Паважаныя сябры!

Госці нашай краіны не раз выказвалі мне сваё захапленне тым, як інтэнсіўна ў нас будуюцца культурныя, сацыяльныя аб'екты, жылыя дамы. Як спакойна і мірна на вуліцах нашых гарадоў. Як актыўна нашы людзі наведваюць культурныя мерапрыемствы.

Паглядзіце, па вечарах свецяцца вокны тэатраў, палацаў, бібліятэк. І, на маю думку, ніхто ў залах не сядзіць у валёнках і кажухах.

Гэта стварылі мы з вамі. На нашай зямлі. Мы ўсталявалі палітычную стабільнасць, нацыянальную згоду і грамадзянскі мір.

На вуліцах беларускіх гарадоў не страляюць. У нас не ўзрываюцца дамы. Надзейна стрыножаны мафія і злачынны свет.

Мы нікому не аддадзім гэтыя заваёвы. Не адмовімся ад здабытага, пабудаванага, выпакутаванага і заваяванага ні на вяршок! На тым стаялі, стаім і стаяць будзем!

Зразумела, у нас яшчэ нямала праблем. Яны вядомыя, над іх вырашэннем працуе ўрад, усе галіны ўлады. Наша мэта — узняць дабрабыт народа, зрабіць краіну эканамічна моцнай. Менавіта эканоміка з'яўляецца асновай і нашага суверэнітэту, і нашага палітычнага аўтарытэту ў свеце, і духоўнага росквіту нацыі. Наш дабрабыт мы павінны ствараць сваімі рукамі, сваім розумам, энергіяй і талентам. Гэта самы надзейны шлях і гарантыя незалежнасці. Ні сорасаўскія гранты, ні падачкі замежных фондаў не ўзнімуць нашу культуру. Толькі мы самі, сумеснымі намаганнямі, у дружбе і грамадзянскай згодзе, кансалідуючы грамадства на высакародных ідэях служэння Айчыне, дабʼёмся высокай мэты!

Я ўжо не раз гаварыў: будзем жыць багацей — будзем выдзяляць больш сродкаў на культуру. Гэта я вам гарантую!

Сёння зразумела ўсім: шлях у будучыню адкрыты толькі высокадухоўнаму чалавеку. Праваднікамі на гэтым шляху з'яўляецеся вы — творчая эліта грамадства. Фарміраванне лепшых якасцяў чалавека — ваша высакародная місія.

Гэта да многага абавязвае не толькі творчых работнікаў, але і ўсіх, хто мае дачыненне да мастацкай асветы і выхавання нашага народа.

На заканчэнне хачу пажадаць вам творчых поспехаў і ўдач. Заканамерна, што ў жыцці кожнага творчага чалавека, як, зрэшты, і палітыка, бываюць спады. Але за імі абавязкова прыходзяць творчы ўздым і натхненне. Не ўпускайце гэты момант і на яго хвалі стварайце тое, чаго чакае ад вас наш народ, — высокія ўзоры мастацтва і культуры. *(Апладысменты)*

Дзякую за ўвагу.

## Вачамі дзяцей



У музеі імя М. Багдановіча прайшла выстава малюнкаў Мінскай абласной школы-інтэрната для глухіх дзяцей. Гэтая выстава стала справаздачай па рэалізацыі праекта "Мастацтва XXI стагоддзя вачамі дзяцей-інвалідаў", за які група настаўнікаў школы на чале з дырэктарам І. Дубовік атрымала грант, фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Эстэтычнае выхаванне і развіццё глухіх дзяцей мае адметныя асаблівасці, звязаныя з адсутнасцю ў навучэнцаў



магчымасці паўнацэннага гукавога ўспрымання навакольнага свету. У гэтым выпадку ўзнікае больш інтэнсіўнае развіццё зрокавых функцый і ўзмацняецца пазнанне навакольнага свету праз зрокавыя формы і вобразы.

Прафесійныя мастакі Ф. Ястраб і С. Давідовіч, якія наведалі выставу, далі высокую адзнаку ёй і такім творам, як "Мае мроі", "Зімовы дзень" Васіля Мартынчыка, "Нацюрморт" Змітрака Чубасава, "Жыццё" і "Вечнасць" Аляксандра Мархеля.

*На здымках: Аляксандр Мархель, "Вечнасць"; Васіль Мартынчык, "Мае мроі".*

**Надзея ПРАКАПОВІЧ,**
**кіраўнік выяўленчай студыі "Васілёк"**

## "Беларусачка" з іголкай і ніткай

Не так даўно ў Бабруйску прайшла першая выязная выстава курсаў мастацкага рукадзелля "Беларусачка". Не першы год гэтыя курсы працуюць пры мінскім Доме ветэранаў, і вучацца на іх маладыя дзяўчаты, іх маці і бабулі. Узровень работ гэтых непрафесійных майстрых даволі высокі, у чым пераканаліся наведвальнікі выставы.

З прычыны таго, што размясцілася выстава ў бабруйскім Цэнтры творчасці дзяцей і юнацтва, асноўнымі наведвальнікамі яе былі школьнікі, навучэнцы прафтэхвучылішчаў і тэхнікумаў. Прыязджалі юныя гледачы і цэлымі класамі з сельскіх школ за 30-40 кіламетраў.

Адметнай рысай, бадай, усіх выстаўленых прац было таемнае і гэтак актуальнае зараз спалучэнне народнага традыцыйнага, хатняга жаночага рукадзелля і сучасных замежных тэхналогій. "Мы карыстаемся ўсёй палітрай ведаў, — патлумачылі кіраўніцы курсаў Вольга Матусевіч, Іна Камінская, што прывезлі працы сваіх навучэнак. — Прыносім на заняткі каляровыя альбомы, замежныя часопісы, беларускую кніжную ілюстрацыю, новыя матэрыялы для работ, абмяркоўваем ідэі. Ходзім на прагляд новых мастацкіх выстаў у сталіцы. А яшчэ мы ездзім да калег у суседнія краіны, асабліва ў Расію, на фестывалі, конкурсы — каб *пераняць іхні вопыт*".

Экскурсаводам на выставе была старэйшая мінская майстрыха Валянціна Важнова. Яна асвоіла амаль усе "рукадзельныя жанры" жаночай выяўленчай творчасці, што былі прадстаўлены на выставе: ручная і машынная вышыўка, бацік, лапікавае шытво, фрывалітэ, вырабы са скуры і з бісеру, вязанне кручком і габелен, — і, прыпыніўшыся на хвіліну ля кожнай прывезенай работы, магла расказаць маленькую гісторыю яе стварэння, афарызм ці показку... Вось такія жывуць у нас жанчыны-чараўніцы ў Беларусі!

Застаецца дадаць, што запрасіла нашых мінскіх майстрых у Бабруйск мясцовая гарадская арганізацыя працоўных жанчын.

**Людміла СІЛЬНОВА**

# "Ён быў прыгожы чалавек. І пісаў ён прыгожа..."

Словы гэтыя сказаў пра Івана Мележа польскі пісьменнік Эўгеніюш Кабатц. І колькі ж вялікай праўды і які глыбокі сэнс у гэтых, здавалася б, не надта мудрагелістых словах. Нам жа не трэба ніколі забывацца, што сапраўдная літаратура — прыгожае пісьменства...

Я і цяпер, гаворачы пра светлую памяць аб гэтым адным з самых дарагіх у маім жыцці чалавеку, не магу сказаць, што ў гэтай, адной з самых Вялікіх Кніг у нашай літаратуры, нябеднай і на сусветнага маштабу кнігі, у "Палескай хроніцы", усе старонкі напісаны з зайздроснай пластычнай адчувальнасцю і эмацыянальнай уражлівасцю. Нездарма ж і сам Мележ прызнаваўся, што "ёсць, здаецца, і страты..." І тым не менш, я да канца дзён маіх услед за Нілам Гілевічам буду паўтараць, што "Палеская хроніка" — "вялікая беларуская кніга", хоць некалі некаторыя, не зусім "тупаватыя" людзі ледзь не на ўвесь свет крычалі, што нават "Людзі на балоце" — "гэта яшчэ не раман!..."

Хіба ж можна забыцца пра "славуты" некалі артыкул У. Карпава "Позірк назад", дзе была адчайная спроба адсунуць "Палескую хроніку" на задворкі нашае літаратуры?..

Але ж "Палеская хроніка", паўтараючы *словы* Алеся Адамовіча, "*была занадта буйнай*... з'явай, каб яе магла адолець дагматычная крытыка".

Але як жа не нагадаць, як пакутліва доўга, аж да самае смерці пісаўся раман "Завеі, снежань". За дзесяць гадоў напісаліся "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы" — 50 друкаваных аркушаў. За астатнія дзесяць напісалася ўсяго 13 аркушаў...

Але тут былі не "ідэйныя перашкоды"!..

Не трэба нам забывацца, гаворачы пра Івана Мележа, пра самае галоўнае — пра бясконцыя пакутлівыя хваробы аўтара гэтых нашых несмяротных раманаў...

Якое ж няпростае, нялёгкае было ягонае жыццё!

У дваццаць гадоў у гэтага такога прыгожага тварам чалавека — цяжкае раненне ў правую руку. А ў трыццаць — туберкулёз лёгкіх у самай цяжкай форме. А колькі ж было і іншых невылечных хвароб!..

А якая ж зайздросная ягоная неардынарнасць праявілася ўжо ў 18 гадоў! Юнак з глыбіннай паляшуцкай вёскі паступае... у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры. Але заглыбіцца ў сусветную духоўную спадчыну не было суджана. Даваўся перажыць усе жахі самага пачатку страшэннае вайны.

Ужо летам 1940 года ён удзельнічае ў вызваленні Паўночнай Букавіны, а з першых жа дзён Вялікай Айчыннай вайны — на фронце. На дваццаць першым годзе жыцця, летам 1942 года, ён цяжка паранены...

Каму як не мне, маладзейшаму за яго на пятнаццаць гадоў, скалечанаму немцам на год раней за яго, зразумець лепш ягоную чалавечую неардынарнасць, проста зайздросную таленавітасць, хоць творчы поспех прыйшоў да яго нялёгка...

"Першыя пакуты і радасці творчасці — прызнаваўся ён сваім шматлікім удзячным "простым" чытачам — перажыў над радкамі наіўных вершаў"...

Пачатак прозы "быў — кажучы ягонымі ж словамі — у запісных кніжках", якія ён запаўняў рознымі нататкамі. Але першы, хто адчуў у ім талент, быў Кузьма Чорны. І першая кніжачка прозы пабачыла свет... у 25 гадоў... А першыя ж вершы публікаваў яшчэ да вайны...

Тут не месца і няма, відаць, патрэбы даваць нейкія аналізы, сёе-тое пачутае не толькі аўтарам, але і шырокім чытачом, я паспеў сказаць пры яго жыцці, за што ён — не збаюся гэтага слова — быў мне так удзячны...

Зусім жа іншая рэч, калі сам Іван Мележ у 1973 годзе прызнаваўся, што ён "пісаў "Людзей на балоце" з любоўю, з захапленнем, але не ўскладаў на раман асаблівых надзей..." Для яго "было проста нечаканым", што раман "так горача прынялі чытачы і крытыка"...

"*Блізкіх і дарагіх*" пісьменнікаў у яго было шмат — прызнаваўся ён у 1973 годзе ў інтэрв'ю часопісу "В мире книг", але лічыў, што ў пытаннях літаратурных уплываў трэба быць вельмі асцярожным, а крытыка наша "нярэдка праз меру катэгарычная ў вызначэнні гэтых літаратурных уплываў".

Тут не месца даваць нейкі "цяперашні" аналіз немалой творчай спадчыны Івана Мележа. Прыгадаю толькі невялічкі ўрывачак з даволі суровага даўняга ліста А. Фадзеева (18.03.1955 г.), у якім ішла гаворка пра раман "Мінскі напрамак": "...А цудоўнага ў гэтай кнізе шмат — галоўным чынам людзі. Вы іх ведаеце, любіце і ў аснове яны Вам у большасці выпадкаў удаліся... адны больш, другія менш, але ўдаліся".

Менавіта ў гэтым і ёсць найбольшае харашство Мележа-пісьменніка. І Мележа-чалавека!..

Хіба ж магу я забыць не толькі ягоных "Людзей на балоце", але і тыя ягоныя лісты *звыш* трыццацігадовай даўнасці ў Маскву, поўныя надзеі на тое, што мая... восьмая аперацыя скончыцца, нарэшце, удала. А як шчыра, як старэйшы родны брат, абняў ён *мяне, калі я вярнуўся з той удалай* — нарэшце! — аперацыі. А колькі ж намаганняў зрабіў ён, каб мяне без ніводнае яшчэ кніжачкі прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР. А як іранічна-добразычліва падпісаў ён мне сваю крытычную кнігу "Жыццёвыя клопаты": "Генадзю Шупеньку — крытыку-прафесіяналу ад крытыка-саматужніка. 22.10.1975 г."

Якія ж мы былі чалавечныя ў тыя гады!

# Некалькі згадак пра Івана Мележа

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7)*

У Мележа артыкулы выклікалі добрае ўражанне. Ён казаў пра гэта і мне, і палымянцам, і выдавецкім работнікам, а ў дадатак да ўсяго запісаў у сваім дзённіку: "За апошнім дні парадавала па-сапраўднаму адно: артыкулы (цэлых тры) — вялікая работа пра маю творчасць Д. Бугаёва. Даўно не чытаў пра творчасць такога добрага і галоўнае талковага слова. Здаецца, я недарэмна жыў і пакутаваў у літаратуры".

Пасля смерці Мележа гэты запіс неаднаразова друкаваўся (увайшоў і ў 10-томны Збор твораў пісьменніка). Але і я не магу абмінуць яго, бо бачу тут праяву асаблівай высакароднасці Івана Паўлавіча — ён сам дачасна паміраў у росквіце таленту, але клапаціўся пра тое, каб засталося добрае слова пра крытыка, які здаваўся яму вартым увагі.

Ды запісам у дзённіку Мележ не абмежаваўся. Мабыць, яшчэ да з'яўлення ў друку трэцяга артыкула ён па тэлефоне адшукаў мяне ў Каралішчавічах (дамашняга тэлефона я тады не меў) і запрасіў да сябе на кватэру, каб у спакойнай атмасферы пагаварыць пра жыццё, літаратуру, чарговыя справы і падзякаваць за ўвагу да ягонай творчасці.

Размова тая заняла цэлы вечар. Ішла *яна пад шатландскае віскі*, пузатую бутэльку якога Мележ прывёз з нейкай замежнай паездкі. Сам ён практычна не піў (не дазваляла здароўе), толькі мачыў губы ў экзатычны па тых часах заморскі напой, а мне наліваў па поўніцы.

Гаворка была вельмі шчырая, цалкам даверлівая і датычылася многіх праблем. Шмат разважалі і пра ягоную творчасць. Мележ выказваў незадаволенасць тым, як было напісана пра "Мінскі напрамак" у зборніку "Единство", які ў 1972 годзе выйшаў у Маскве. Пра беларускую ваенную прозу там змешчаны артыкул В. Каваленкі, які шмат пісаў пра Мележа і карыстаўся ягонай прыхільнасцю. А ў гэтым артыкуле Мележу вельмі не спадабалася, што пра "Мінскі напрамак" сказана толькі мімаходзь, фактычна ў адмоўным плане, як станоўчае вылучана толькі "эстэтычная важкасць дакументальнага факта". А Мележ не быў жа проста дакументалістам, які ўсяго толькі занатоўваў вядомыя факты. *Ён напісаў мастацкі твор, якому аддаў багата* сілы і здароўя. "З вялікім хваляваннем і адданасцю пісаў я свой раман. Пяць гадоў прconfigure працягвалася гэтае нецярплівае, ліхаманкавае гарэнне. Я жыў сваёй кнігай днём і ноччу. Пазней, здаецца, нічога падобнага не было. Можа, усё было так таму, што гэта была першая мая, як мне здавалася, сапраўдная рэч. Першая вялікая любоў, першая надзея". І яшчэ: "5 гадоў працы над раманам. Днём на прагулках — ноччу — усё аб рабоце. Да знемажэння. Марафонскі бег".

Гэта гаварылася яшчэ пра першую рэдакцыю "Мінскага напрамку" (1947—1952), які пісьменнік потым дапрацоўваў шмат разоў. Толькі пра генерала арміі Чарняхоўскага, які ў перыяд разгрому гітлераўцаў *у аперацыі "Баграціён"* камандаваў Трэцім Беларускім фронтам, Мележ дапісаў не менш за сотню старонак, апублікаваных у 1970 годзе. А Каваленка ў сваім артыкуле нават не ўпамінаў Чарняхоўскага, паказанага ў *мележаўскім рамане*. І гэта пры тым, што, напрыклад, А. Фадзееў яшчэ ў 1955 годзе адзначаў як удачу Мележа вобраз Чарняхоўскага. "Адчуваецца, што Вы шмат працавалі над сваім раманам, уклалі шмат любві ў людзей, пра якіх напісалі". Чарняхоўскі "ўвогуле атрымаўся жывым і відаць, што гэта камандуючы, і гэта, увогуле, Ваша ўдача". Праўда, Фадзееў заўважыў у "Мінскім напрамку" і пэўныя недапрацоўкі і таму добразычліва параіў: "Папрацуйце ж яшчэ над сваім раманам, каб яго мог чытаць і любіць *шматмільённы чытач*, а не дзесяткі тысяч. Раман гэтага варты".

Такім чынам, Мележава незадаволенасць крытыкам мела важкія падставы. І я выслухаў усе ягоныя нараканні на Каваленку *без пярэчанняў*. У сваіх артыкулах я таксама пісаў пра недахопы "Мінскага напрамку", але, супаставіўшы розныя рэдакцыі, прыйшоў да высновы,



*І. Мележ з П. Панчанкам.*

*Фота Ул. КРУКА*

